ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

17 верасня 2004 г. № 38/4275

## АНОНС!



Не любім мы крытыкі, нават заслужанай, бо тут трэба найперш пераступіць праз сябе — уласныя амбіцыі і незразумелыя крыўды, быць вышэй бытавых дробязей, што заўсёды складана. Чалавечая натура, як вядома, недасканалая.

Але ж у нармальным грамадстве павінна існаваць нармальная крытычная думка, няхай і суб'ектыўная, якая не дае зарасці літаратурнаму агароду лопухам і асотам.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ СТАР. 7

Уражанняў пра кнігу Сяргея Рублеўскага шмат, яны розныя, неадназначныя, але ж сканцэнтраваныя ў адно аб'ёмнае, шматпланавае пытанне у трох яго іпастасях: «Што ж усё-такі для творцы з'яўляецца вызначальным?», «Што ёсць квінтэсенцыя яго светаўспрымання?», «Наколькі «Азярод» адпавядае праўдзе жыцця?».



Адказ знайшоўся нечакана — як толькі звярнуўся да назвы кнігі: «Азярод» — паняцце, якое было паўсюдным у абіходзе нашых продкаў і якое не так ужо часта выкарыстоўваецца імі сёння».

СТАР. 6

# Свята скарбніцы ведаў

Бібліятэка... Яе часта называюць храмам, скарбніцай ведаў. Сучасная бібліятэка — гэта сімбіёз інфармацыйнага, адукацыйнага і культурнага цэнтраў. 15 верасня бібліятэкі Рэспублікі Беларусь у чацвёрты раз адзначылі сваё прафесійнае свята — Дзень бібліятэк. Ён становіцца гэткім жа неабходным, як і іншыя святочныя дні. Спадзяёмся, што свята пройдзе і ў пяты... дзесяты раз. Бо развіццё духоўнасці ў нашым грамадстве застаецца актуальным. А бібліятэкі — адно з яе важных складаемых.

СТАР. 2

Фотакалаж В. Калініна, К. Дробава і А. Патапенкі.

Бібліятэка... Яе часта называюць храмам, скарбніцай ведаў. Сучасная бібліятэка — гэта сімбіёз інфармацыйнага, адукацыйнага і культурнага цэнтраў.

15 верасня бібліятэкі Рэспублікі Беларусь у чацвёрты раз адзначылі сваё прафесійнае свята — Дзень бібліятэк, які быў зацверджаны Указам Прэзідэнта РБ А.Р. Лукашэнкі № 483 ад 8 верасня 2001 года.

# Свята скарбніцы ведаў

У межах свята прайшлі культурныя мерапрыемствы. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў зале ЮНЕСКА адбылася прэс-канферэнцыя "Бібліятэкі — грамадству". На ёй выступілі намеснік міністра культуры РБ В. Гедройц, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Р. Матульскі, старшыня Савета Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі П. Лапо. Яны гаварылі аб дзяржаўнай палітыцы ў вобласці бібліятэчнай справы, прыярытэтных накірунках, актуальнасці бібліятэк для сучаснага грамадства, ролі і значэнні бібліятэк у новым інфармацыйным асяроддзі.

Затым у лекцыйнай зале Нацыянальнай бібліятэкі прайшло ўрачыстае адкрыццё эксклюзіўнай выставы "Кнігі Расіі", якую прэзентаваў Цэнтр рускай кнігі. Саветнік па культуры Пасольства Расіі ў Беларусі К. Кузняцоў і старшыня Мінскага аддзялення рускага таварыства, паэт М. Ткачоў адзначылі, якую вялікую ролю адыгрываюць кнігі і бібліятэка ва ўзаемаадносінах двух дзяржаў — Расіі і Беларусі, жыцці і дзейнасці нашых людзей.

На выставе экспануюцца больш як 200 унікальных выданняў культурна-асветнай тэматыкі выдавецтваў "Расійская энцыклапедыя", "Асвета" і іншых. Тут жа розныя энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, альбомы, серыя "Мастакі свету", а таксама кнігі серыі "Гісторыя Расіі", сусветная і руская класіка, 100-томная бібліятэка класічнай і сучаснай рускай літаратуры.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі атрымае ў дар ад Урада Расійскай Федэрацыі каля 500 экземпляраў кніг найбольш вядомых расійскіх выдавецтваў.

Выстава будзе працаваць роўна месяц, да 15 кастрычніка. Цэнтр рускай кнігі плануе прадэманстраваць яе ў бібліятэках Магілёва, Гомеля, Бабруйска, іншых беларускіх гарадах.

Вечарам у Маладзёжным тэатры эстрады адбыўся святочны канцэрт. Перад ім выступілі прадстаўнікі Міністэрства культуры РБ, былі ўручаны ўзнагароды МК РБ і ББА.

Свята — Дзень бібліятэк стала навіцца гэткім жа неабходным, як і іншыя святы. Спадзяюся, што яно пройдзе і ў пяты... дзесяты раз. Бо развіццё духоўнасці ў нашым грамадстве застаецца актуальным. А бібліятэкі — адно з яе важных складаемых.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

# Беларуская моладзь — у расійскі шоу-бізнес

19-20 жніўня ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі прайшлі адборачныя туры ў праграму "Народны артыст-2", аналагічную "Фабрыць", якую арганізаваў тэлеканал "Россия " і кампанія "FBI-music " на чале з прадзюсерам Яўгенам Фрыдляндам. Усяго ў кастынгах удзельнічала каля 16 тысяч чалавек, а адабралі з іх толькі трошкі больш за сотню!

Адбор удзельнікаў адбыўся ў сталіцах трох краін-суседак — у Кіеве, Маскве і Мінску. У сталіцы Украіны на конкурс прыйшлі 3000 чалавек. І з гэтых некалькі тысяч журы вызначыла ўсяго 35 таленавітых дзяўчын і хлопцаў, якія будуць паказваць сваё ўмельства ў Маскве. А там, дарэчы, прэтэндэнтаў на запаветныя месцы ў праграме было яшчэ больш. З 9 тысяч тых, хто прыйшоў на кастынг, для далейшай барацьбы былі адабраны... 46 удзельнікаў.

Увогуле журы, якое складалася з 4 чалавек — Кіма Брэйтбурга, Ціграна Кеасаяна, Лаймы Вайкуле і Артура Гаспарана, — павінна было выбраць 100 чалавек. Але несправядліва атрымліваецца. Чаму Мінску пакінулі ўсяго 19 месцаў? Таму журы вырашыла не абмяжоўвацца колькаснымі рамкамі. Яно адбірала ўсіх самых-самых адораных па крытэрыям: спевы, танцы, акцёрскае майстэрства, складанне песень, ігра на музычных інструментах. Беларусаў, якім давядзецца наведаць Маскву, атрымалася 23 — маладых (ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў), мэтанакіраваных, жадаючых "співаць людзям", як сказала адна з удзельніц Алеся Кульша, член Гродзенскага аркестра джаза, жадаючых жыць у шоу-бізнесе, жадаючых паказаць, на што здольная беларуская моладзь.

Каб апынуцца ў ліку тых шчаслівцаў, хлопцам і дзяўчатам неабходна было прайсці 2 адборачныя туры. У першым, дзе ўдзельнічала больш за 4 тысячы беларусаў, трэба было выканаць музычнай рэдкалегіі 3 любыя песні. У другім туры таксама з амаль сотні выбіралі, што называецца, лепшых з лепшых.

Зараз нашы "беларускія зорачкі" паедуць у Маскву для ўдзелу ў галоўным кастынгу, дзе будуць змагацца з расіянамі і ўкраінцамі. І толькі пасля гэтага некалькі беларусаў застануцца ў асноўнай трыццатцы скараць расійскую індустрыю забаў.

З верасня і распачаўся праект на тэлебачанні. Адбудуцца 3 канцэрты, дзе выступяць групы ўдзельнікаў па 10 чалавек. З кожнай групы зноў жа выберуць, але выберуць тэлегледачы, трох лепшых, а аднаго прапануе журы. Такім чынам, у гэтай дзесятчы і апынуцца галоўныя ўдзельнікі, якія і палезуць да вяршынь шоу-бізнеса... Па адным яны кожны тыдзень будуць выбываць. Так і вызначыцца адзіны пераможца з 16 тысяч жадаючых быць на ягоным месцы!

**Вераніка ПЛАТКО**

# Сталіца: "Мінск — маё жыццё!"

У мінулыя выхадныя сталіца святкавала свой дзень нараджэння. З раніцы горад сустракаў мінчан і гасцей ярмаркамі, гуляннямі і рыцарскімі турнірамі. Пасля ўскладання кветак да абеліска "Мінск горад-герой", асноўныя ўрачыстасці распачаліся ў Верхнім горадзе, на праспекце Машэрава і Кастрычніцкай плошчы.

Каля Мінскай гарадской ратушы, якая пабудавана ў пачатку семнаццатага стагоддзя, адбылося ўручэнне дыпломаў "Мінчанін года" прадстаўнікам трынаццаці прафесій, а на праспекце Машэрава, ад Нямігі і да Палаца спорту, выстраіліся шапікі прадпрыемстваў гандлёва-грамадскага харчавання, ярмаркі "Служба быта запрашае" і "Горад майстроў".

Святочныя пляцоўкі былі адкрыты ў кожным мікрараёне горада. Каля Нацыянальнага мастацкага музея працаваў дзіцячы пленэр "Я малюю Мінск", а ў парку імя Горкага – "Паляна цудаў".





У межах святкавання горада прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя памяці першага Героя Беларусі лётчыка Уладзіміра Карвата. На вуліцы, названай у яго гонар, была адкрыта дошка памяці.

Вечарам, у Палацы рэспублікі, адбыўся вялікі сімфанічны канцэрт з удзелам саліста Нацыянальнага акадэмічнага вялікага тэатра оперы Беларусі Уладзіміра Пятрова і салісткі Каралеўскай Лонданскай оперы Орлы Бойлан з Ірландыі.

У праграме канцэрта прагучалі класічныя творы замежных і айчынных кампазітараў.

**Янка ЗАЛУЖНЫ**
*Фота А. Патапенкі*



# учора і сёння

# Слаўны горад у Княстве Літоўскім

Здаўніх часоў беларуская зямля не была закрытай для еўрапейцаў. Яе межы перасякалі гандляры і дыпламаты, вучоныя і царкоўныя служкі, мастакі і рамеснікі... альбо проста падарожнікі і шукалі прыгодаў.

Некаторыя з іх пасля выдавалі на сваёй радзіме мемуары і дзённікі, тым самым знаёмілі суайчыннікаў з Вялікім Княствам Літоўскім. Менавіта пад гэткай назвай была вядома свету Беларусь у XIV—XVIII стагоддзях.

І па сённяшні дзень вартымі ўвагі і цікавасці з'яўляюцца пісьмовыя крыніцы, у якіх мы можам атрымаць першыя звесткі пра Беларусь і яе сталіцу Мінск.

Найбольш ранняе тапаграфічнае апісанне старажытнага Мінска маецца ў Аляксандра Гваньіні (другая палова XVI ст.) і Трыфана Карабейнікава (1593). Важнымі дакументамі з'яўляюцца таксама,складзеныя ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў планы горада, на якіх адзначаны сляды старажытных умацаванняў.



Рака Свіслач і мост, які звязвае вуліцу Аляксандраўскую (М. Горкага) з Ніжнім рынкам (пл. 8 Сакавіка.)

Звесткі аб дакладным часе заснавання Мінска, на жаль, невядомыя. Першае пісьмовае паведамленне пра Мінск сустракаецца ў "Повести временных лет", пазначаное датай 1067 год. Менск, Менеск прыгадваецца ў "Повесці" ў сувязі з міжусобнымі разладамі, што ператтварыліся ў бітву паміж полацкім князем Усяславам і сынамі кіеўскага князя Яраслава Мудрага.

"У год 6576 (1067) Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, сабралі дружыну, пайшлі на Усяслава ў моцную сцюжу. І падышлі да Мінска, і мінчане зачыніліся ў горадзе. Браты ж узялі Мінск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі з сабой як вайсковую здабычу і рушылі на Нямігу. І Усяслаў пайшоў ім насустрач. Яны сустрэліся на Нямізе 3-га сакавіка; і быў снег вялікі, і войскі пайшлі адно на адната, і быў бой жорсткі, і шмат людзей пала... У бітве перамаглі Яраславічы, Усяслаў уцёк."

Гэта бітва лічылася адной з самых жахлівых на працягу некалькіх стагоддзяў. І напрыканцы XII ст. аўтар "Слова аб палку Ігаравым" прыгадвае яе з болем.

Большасць сучасных гістарычных даследчыкаў лічыць, што ход падзей той страшэннай сечы быў наступным. Спачатку аб'яднаныя войска Яраславічаў падышло да Мінска (тады ён знаходзіўся на рацэ Менцы ў 16-ці кіламетрах ад сучаснага горада), захапіла яго і накіравалася на Нямігу. Шматгадовыя даследаванні пацвярджаюць, што Няміга — гэта назва не толькі ракі, але і дзядзінца, які быў пабудаваны ў месцы зліцця рэчак Няміга і Свіслач. Пазней на яго была перанесена назва Менск.

Вядомы беларускі археолаг Г. Штыхаў лічыць: назву Мінску дала рака Менка, якая ўпадае ў Пціч, што ў 12-ці кіламетрах на захад ад сучаснага горада Дзяржынска. Археолагі знайшлі там старажытнае паселішча. На думку вучонага, яго жыхары па некаторых абставінах перайшлі з берагоў Менкі на Нямігу і заснавалі там новае паселішча. Пры гэтым захавалася старая назва Менск.

Падобных меркаванняў прытрымліваўся і вядучы географ БССР В. Жучкевіч. Больш таго, ён выказаў думку, што на берагах Свіслачы да таго часу ўжо існавала самастойнае паселішча Няміга.

Аднак прафесар Э. Загарульскі выключае магчымасць пераносу назваў. Па яго гіпотэзе, падобную назву з коранем "мен" мела зніклая маленькая рачулка, якая ўпадала ў Свіслач. Пасля, у XIX ст., першапачатковае "Менск" было скажона. Царскія чыноўнікі механічна ўспрынялі польскую форму MINSK. Такім чынам яна стала агульнаўжывальнай. З 1916 года ў асяродку беларускай інтэлігенцыі была зацверджана назва Менск—Беларускі. Яна захоўвалася ў часы нямецкай і польскай акупацый.

Пасля ўсталявання савецкай улады гістарычная форма "Менск" стала здабыткам толькі беларускай мовы. Але, у сувязі з узмацненнем рэпрэсій супраць нацыяналістаў, у канцы 30-х гадоў назва "Менск" была заменена на Мінск".

* * *

Напрыканцы нашага першага гістарычнага падарожжа па старажытным Мінску, хочацца пераказаць, а, магчыма, каму і нагадаць загадкавае паданне пра заснаванне горада.

...Паміж Татарскім канцом і Пераспенскім мастком, каля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся знакаміты багатыр-знахар па прозвішчы Менеск, або Менскі. І пабудаваў ён на рацэ Свіслач велізарны каменны млын на сем колаў. Ніхто з жыхароў самога асілка не бачыў. Тым не менш, між людзей хадзілі самыя дзіўныя аповесці аб ягонай сіле. Казалі, што ў яго млыне мука мелецца не з жыта, а з каменя; што ноччу былі чутныя нейкія дзіўныя гукі, галёканне, песні, танцы; што апоўначы выязджаў асілак на сваім млыне і набіраў у сваю дружыну смелых і моцных людзей, якія пазней утварылі народ, што пасяліўся побач з млыном. Тут і быў заснаваны горад, які назвалі імем асілка — Менск.

**Святлана КАНАНОВІЧ**





На вуліцы Нямігскай. 1947г.



Касцёл Дамініканскага манастыра на рагу вуліц Петрапаўлаўскай і Хрышчэнскай (Энгельса і Інтэрнацыянальнай). Пачатак XX ст.

## Абсягі

**ГРОДЗЕНШЧЫНА**

### Крыніцы надзей

У раённым Доме культуры гарадскога пасёлка Зэльва адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 30-годдзю творчай дзейнасці паэта Уладзіміра Мазго.

Дзякуючы намаганням работнікаў сярэдняй школы № 2, раённага Дома культуры і цэнтральнай бібліятэкі, творчая сустрэча атрымалася на славу. Уся праграма вечарыны была складзена з вершаў і песень Уладзіміра Мазго, якія выконвалі і дзеці, і дарослыя.

Шмат апладысментаў заслужылі салісткі Станіслава Прызван, Марына Чаргейка, дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Ірыны Прахарэнкавай. Доўга не адпускалі са сцэны заслужанага артыста Беларусі Якава Навуменку. Ён дарыў прысутным песню за песняй, а зала ўсё прасіла: яшчэ!.. Ці ж гэта ні яскравы прыклад плённага супрацоўніцтва паэта і спевака.

Нямала цёплых слоў у адрас паэта-земляка прагучала з вуснаў загадчыка аддзела Зэльвенскага райвыканкама Юрыя Кулікова, дырэктара СШ № 2 Юрыя Лізунова, намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхася Скоблы.

Сам "віноўнік" урачыстасці парадаваў землякоў сваімі новымі творамі. А завяршальным этапам свята стаў выхад на сцэну дзіцячага хора з песняй Уладзіміра Мазго і Алега Елісеенкава "Вочы дзяцей". Ласкавая мелодыя і пранчулыя словы западалі ў душу кожнага, наракаючы надзею на заўтрашні дзень:

*"О, вочы дзяцей,*
*цуда-вочы дзяцей!*
*Яны за нябёсы і росы чысцей.*
*У вочы дзяцей —*
*у крыніцы надзей —*
*Часцей заглядайце,*
*любіце часцей!.."*

**Яніна ШМАТКО**

**МІНШЧЫНА**

### Родныя вытокі

Па ініцыятыве Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў "Ватра", Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі мастака Фёдара Свяцільніка, прысвечанай Дню незалежнасці Украіны.

У адкрыцці прынялі ўдзел прадстаўнікі Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, Міністэрства культуры РБ, Беларускае грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў "Ватра".

Выстаўка твораў Ф.Свяцільніка — важная падзея ў культурным жыцці сталіцы. Мастак належыць да маладога пакалення, захоўвае традыцыі ўкраінскай і беларускай школ пейзажу. Родам з Украіны, Фёдар Міхайлавіч больш за 14 гадоў жыве і працуе ў Беларусі, з'яўляецца настаўнікам малюнка і жывапісу ў Радашковіцкай школе мастацтва. Шчыра ўлюбёны ў прыроду, таму і адлюстроўвае яе веліч, прыгажосць. У сюжэтах Свяцільніка захаваны родныя вытокі, усё тое блізкае і глыбокае, што ёсць у кожным, — Радзіма.

Таксама ў рамках адкрыцця выстаўкі была прадстаўлена літаратура з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, выдадзеная за апошнія гады і прысвечаная Дню незалежнасці Украіны.

**В.К.**

# У новы сезон – з новымі праграмамі

**Першага верасня — не толькі каляндарны пачатак восені, Сусветны дзень міру і Дзень ведаў, з якога распачынаецца чарговы навучальны год для школьнікаў і студэнтаў. Гэта яшчэ і пачатак новага вяшчальнага сезона Беларускага радыё. Пра тыя навінкі, якія чакаюць радыёслухачоў у літаратурным плане, з чытачамі “ЛіМа” дзеляцца галоўны дырэктар Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Пётр РАМАНЧУК і галоўны дырэктар замежнага вяшчання Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

**— Скажыце, калі ласка, ці плануецца на радыё павелічэнне вяшчання літаратурных праграм у новым сезоне?**

**Пётр РАМАНЧУК:**

— Штогод з першага верасня мы распачынаем новы сезон. Прынцыповая пазіцыя кіраўніцтва кампаніі і нашага канала — паступовае павелічэнне аб’ёмаў вяшчання па літаратурнай і культурнай тэматыкам. І ў гэтым плане, што якраз уяўляе цікавасць для вашага штотыднёвіка, — адбудзецца надта істотнае, я б сказаў нават трошкі рэвалюцыйнае павелічэнне аб’ёмаў і колькасці праграм, якія прысвечаны беларускай літаратуры ў самым шырокім сэнсе.

Усё гэта робіцца з дапамогай Навума Якаўлевіча, які з’яўляецца кансультантам і ўдзельнікам большасці нашых праграм, да таго ж ён — дырэктар радыёстанцыі “Беларусь”. Таксама на літаратурнай ніве на радыё працуе яшчэ адзін член Саюза беларускіх пісьменнікаў — Маргарыта Прохар. Кіраўнік тэматыкі на Першым канале і на канале “Культура” — вядомая журналістка Галіна Шаблінская.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

— Так, з першага верасня Беларускае радыё пачынае новы вяшчальны сезон. І кожны год мы стараемся, каб нашых слухачоў чакалі нейкія новыя праграмы, перадачы, новыя тэмы і людзі, вонкавае і музычнае афармленне і гэтак далей.

На Беларускім радыё мы вяшчаем: Першы нацыянальны канал, канал “Культура”, радыёстанцыі “Сталіца” і “Радиус-FM”. А таксама радыёстанцыя “Беларусь”, якая вяшчае на 70 краін свету на беларускай, рускай, нямецкай і англійскай мовах.

Хачу дадаць да сказанага вышэй, што ўвогуле, калі мы гаворым пра папулярызатарства літаратуры і мастацтва — у нас на Беларусі вельмі мала такіх людзей, хто гэтым займаецца, як у вас, напрыклад, Святлана Берасцень — выдатны журналіст-прафесіянал. Яна часты госць у нашых перадачах на музычную і літаратурную тэматыкі. У нас такі чалавек — Галіна Шаблінская, можна сказаць, адзіны ў краіне літаратурны журналіст. Чалавек, які глыбока ў тэме, глыбока ведае літаратуру, які бачыць працэсы, што адбываюцца ў літаратуры. Ёй удзячныя многія літаратары і пісьменнікі, таму што яна зацікаўлена, з прафесійным разуменнем справы, сутнасці літаратуры, яе задач працуе з прадстаўнікамі прыгожага пісьменства.

**— Ці будуць мець месца на радыё новыя літаратурныя прэм’еры і праекты? Можа, з’явяцца новыя творчыя асобы ў якасці вядучых?**

**Пётр РАМАНЧУК:**

— Дарэчы, такі ж самы падыход да палітыкі літаратурнага вяшчання нашага канала і канала “Культура”, да слова, існуе і на канале “Сталіца”. Каардынуецца па асноўных кірунках: нашы перадачы даюць магчымасць для чалавека, які цікавіцца літаратурай, бачыць увесь літаратурны працэс на Беларусі, бачыць творчасць, ведаць літаратурныя прэм’еры, быць у курсе навінак кніжнага гандлю, навінак і праблем выдавецкай дзейнасці.

Што да літаратурных прэм’ер і новых творчых асоб — з гэтага сезона з намі пачынае актыўна супрацоўнічаць (ён супрацоўнічаў і раней) у якасці пазаштатнага аўтара наш добра вядомы паэт Алесь Бадак: разам з Навумам Гальпяровічам у абсалютна новым праекце “Брама”. Затым, напрыклад, “Літаратурны праспект” — гэта праграма інфармацыйная: з яе слухачы даведаюцца пра ўсе-ўсе падзеі на літаратурнай ніве — розныя творчыя сустрэчы, прэзентацыі, літаратурныя дайджэсты. Што да праграмы “Кніжны сусвет” — яна прадстаўляе навінкі літаратуры, навінкі беларускай ды пазнаваўчай і гістарычнай літаратуры. У нас ёсць яшчэ адна праграма ў тэматыцы маладзёжнага вяшчання — “Чыталка”. Перадача, якая зарыентавана на маладзёжную аўдыторыю: для ўдзелу ў ёй мы запрашаем маладых аўтараў, літаратараў і г.д.

Чакаецца новая праграма з акадэмічным ухілам — “Палемічны роздум”. І наступная прэм’ера, у ёй непасрэдна актыўны ўдзел прымае Навум Гальпяровіч, а таксама навукоўцы і літаратары, — “Родная мова”.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

— Я хацеў бы крышку падрабязней расказаць пра вышэй узгаданыя праграмы. Прынцыпова новы праект гэтага сезона “Палемічны роздум” падрыхтаваны сумесна з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук, прафесара, намесніка дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Сцяпана Лаўшука. Ён і Вераніка Стральцова, супрацоўніца, кандыдат філалагічных навук, выступаюць у якасці вядучых. У праграме будзе ўсебакова асвятляцца літаратурны працэс, а таксама навінкі і сама сутнасць літаратурнага працэсу з пункта гледжання прафесіяналаў.

“Родная мова” — зноў-такі прынцыпова новая праграма, якая будзе выходзіць штотыднёва на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё і якая будзе расказваць пра гісторыю і пра сённяшні стан беларускай мовы. Я лічу, яна павінна зацікавіць нашых слухачоў, бо, так скажам, гэта праект не “сухі” і дыдактычны, ён разглядае аспекты беларускай мовы, гісторыю ўзнікнення, яе сённяшні стан. Мы пастараемся адказваць на пытанні, якія цікавяць многіх, хто вывучае беларускую мову, хто хоча далучыцца да яе. Праграма складаецца з некалькіх цікавых рубрык, пакуль не будзем раскрываць сакрэту з якіх. Я думаю, нашы радыёслухачы пазнаёмяцца, паслухаюць і многія стануць прыхільнікамі перадачы. Хачу сказаць, што ў ёй актыўны ўдзел бяруць спецыялісты, і ў першую чаргу — вядучая праграмы, выкладчыца роднай мовы Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Алена Пекач; дапамагае ёй наш акцёр і рэжысёр Алег Вінярскі.

Мы можам сказаць, што такім чынам гэтым новым праектам робім своеасаблівы цыкл нашай моўнай праграмы на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё. У нас існавала ў мінулым сезоне “Моўная хвілінка” — перадача пра тое, як правільна, слушна гаварыць па-беларуску. А цяпер будзе вялікая, амаль 20-хвілінная штотыднёвая праграма “Родная мова”, эпіграфам да якой з’яўляюцца словы Якуба Коласа: “Магутнае слова — ты роднае слова...”. Яна будзе ілюстравацца ўрыўкамі з мастацкіх твораў, запісак Фёдара Янкоўскага, Янкі Брыля і іншых слынных людзей, навукоўцаў, пісьменнікаў, якія актыўна займаюцца вывучэннем, развіццём і прапагандай роднай мовы.

**Пётр РАМАНЧУК:**

— Хачу дадаць пра кароценькую праграму “Моўная хвілінка”, якую мы закранулі. Яна з’яўлялася проста граматычнай, адукацыйна-асветніцкай: тлумачыла слухачу нейкія складанасці з вымаўленнем, з націскам і да т.п. У новым сезоне штодзённая (і па некалькі разоў на дзень) “Моўная хвілінка” ўдасканальваецца тэматыкай паходжання слоў, этымалогіяй. Надта багата ў нас ёсць цікавых слоў: гістарызмы, архаізмы... Праграма робіцца больш асветніцкай, мы пашыраем кола слухачоў, бо ў сённяшнім варыянце яна ўсё-такі больш заакадэмізаваная.

Наступнае: калі скажам паэзія, ці паэтычныя формы, так ці інакш прысутнічаюць у сілу проста аб’ектыўных прычын, бо, ведаеце, верш — гэта пару хвілін эфірнага часу. Аўтар прыходзіць і знаёміць са сваімі творамі. Цяжэй з беларускай прозай. Таму з новага сезона мы маем праграму, яна была і раней, такога інтэрнацыянальнага характару “Кароткія гісторыі”. Аўтар — Маргарыта Прохар. Раней гэты праект знаёміў з самымі цікавымі, яскравымі кароткімі формамі: апавяданне, нарыс, эсэ і г.д. сусветнай класікі. Цяпер праграмы гэтага цыкла зарыентаваны выключна на беларускі матэрыял, пачынаючы ад Баршчэўскага, Купалы, Ядвігіна Ш. і да сённяшніх маладых беларускіх празаікаў. Калі за літаратурную тэматыку на радыё адказваюць дасканалыя прафесіяналы Н.Гальпяровіч, Г.Шаблінская, М.Прохар, мы не будзем абмяжоўвацца менавіта жанравым момантам: эсэ, нарыс і да т.п., а маем магчымасць з дапамогай праграмы будаваць анталогію беларускага апавядання, анталогію беларускай літаратуры кароткай формы. Мы ўжо праслухалі ў гэтым цыкле цікавыя кароткія апавяданні Уладзіміра Сцяпана. Больш за тое, у якасці кароткіх гісторый у рубрыцы ў нас будуць прадстаўлены (можа, і не так часта, як хацелася б, але час ад часу з’явяцца якія-небудзь падставы: угодкі, юбілеі, дні памяці творцаў) урыўкі з твораў Купалы, Коласа, Караткевіча і інш.

**— Прыемна, што з гэтага сезона з’явяцца не толькі новыя літаратурныя і моўныя праграмы, але і старыя набываюць новую якасць і будуць ахопліваць інтарэсы ўсіх ўзроставых катэгорый слухачоў. А ці плануецца павышаць аб’ёмы замежнага вяшчання?**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

— Хацеў бы спачатку дадаць, што адна з новых публіцыстычных праграм “Зямля, што нам дадзена лёсам”, якую я вяду, будзе не толькі чыста літаратурная, гэта будзе мастацкая публіцыстыка — сувязь літаратуры, жыцця з нашымі праблемамі, сённяшнім днём.

Што тычыцца нашага замежнага вяшчання, радыёстанцыя “Беларусь”, якая, як ужо ўзгадвалася, вяшчае на 70 краін свету на беларускай, рускай, нямецкай і англійскай мовах. З новага сезона аб’ём яе радыёперадач значна павышаецца. Там таксама будзе шырока прадстаўлена беларуская літаратура і мова. Па-першае, гэта цыклавыя праграмы “Скарбы беларускай мовы”, якія вядзе выкладчыца роднай мовы Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Алена Пекач, і, па-другое, “Скарбы роднай літаратуры” — у якасці вядучага паэт Алесь Бадак.

**Пётр РАМАНЧУК:**

— Таксама хачу зазначыць, што ў новым сезоне ў змесце нашых праграм будуць ажыццяўляцца сустрэчы з самымі вядомымі, выбітнымі, патрыярхамі нашай літаратуры ў новых рубрыках “Пісьменнік перад мікрафонам” і “Успаміны”.

Праз год з невялічкім мы адзначаем вялікае свята рэспубліканскага маштабу — 80-годдзе Беларускага радыё. І мы ганарымся, што, напрыклад, у нашых фондах ёсць стужкі з запісамі Якуба Коласа, Янкі Купалы і многіх іншых. У нас багаты архіў, яго мы таксама будзем папаўняць праграмамі з удзелам тых людзей, якія яшчэ працуюць: запісамі перадач з ветэранамі, паэтамі, празаікамі, навукоўцамі, літаратура- і мовазнаўцамі і г.д. Гэта наша прынцыповая пазіцыя: каб мы і чыталі творы, і, вядома ж, сустракаліся з самімі творцамі.

Няма ніякіх падстаў наракаць на адрас Беларускага радыё, як часам можна пачуць, што пытанне беларускай літаратуры знаходзіцца недзе на задворках эфірнага часу. Беларуская літаратура ў нас прадстаўлена на працягу ўсяго дня штодзённа на хвалях Першага нацыянальнага канала і канала “Культура”. Мы маем кантакт з рознай узроставай аўдыторыяй. Мы гаворым пра літаратуру для моладзі, для хатніх гаспадынь, для інтэлігенцыі. Гэта ўсё робіцца з улікам нашай пабудовы эфірнага дня.

Улічвалася, каб літаратурная тэма займала адно з самых галоўных і дастойных месцаў у нашай сетцы побач з інфармацыйнымі праграмамі і перадачамі на сацыяльную і палітычную тэматыкі.

Хачу сказаць, што, на мой погляд, і гэта таксама прынцыповая пазіцыя кіраўніцтва кампаніі і канала, па аб’ёме і па значнасці літаратура павінна быць прадстаўлена ў эфіры як мага больш шырока і яскрава.

Для слухачоў Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё, якія цікавяцца роднай мовай, літаратурай, гісторыяй і да т.п. мы даём расклад некаторых радыёперадач.

**ПАНЯДЗЕЛАК “Палітра” 10 05. СЕРАДА “Кніжны сусвет” 10 05. “Родная мова” 23 40. ЧАЦВЕР “Брама” 21 40. “Чыталка” 17 05. ПЯТНІЦА “Зямля, што нам дадзена лёсам”, 11. 10, “Кароткія гісторыі” 0 30. СУБОТА “Літаратурны праспект” 21 00. НЯДЗЕЛЯ “Беларускі альбом” 10 00. “Палемічны роздум” 22 05.**

**Штодзённа — “Моўная хвіліна” — 12.53; 15.55; 19.58.**

**Віктар КАВАЛЁЎ**

***Чалавека акаляе натуральнае і ненатуральнае асяроддзе — прырода і архітэктура. Устойлівае развіццё тэрыторый ў значнай ступені залежыць ад арганічнага ўзаемадзеяння гэтых дзвюх складаючых. Да вырашэння такой значнай праблемы маюць дачыненне спецыялісты многіх накірункаў, але найбольшая адказнасць — за архітэктарамі, планіроўшчыкамі, будаўнікамі і, канечне ж, за Беларускім навукова-даследчым інстытутам горадабудаўніцтва.***

# Аднаўляць гарады ў гармоніі з гістарычным мінулым




У 1971 г. гэты інстытут сфарміраваўся як філіял Маскоўскага інстытута горадабудаўніцтва, а ў 1976 г. стаў беларускім інстытутам. Яго супрацоўнікі маюць вялікі вопыт будоўлі і пераўтварэння гарадоў і сёлаў пры ўважлівых адносінах да навакольнага асяроддзя, каштоўнай гістарычнай забудовы. Таму аўтарытэт НДІ ў краіне даволі высокі.

"Інстытут займаецца унікальным відам дзейнасці, — расказвае заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, галоўны архітэктар праектаў БелНДІ горадабудаўніцтва Уладзімір Ісачанка. — Ён праектуе ўсе гарады рэспублікі, паколькі тэрыторыя Беларусі складаецца з мноства асобных элементаў: абласцей, раёнаў, селішчаў". Аднак падчас такой працы супрацоўнікі інстытута сутыкаюцца з цэлым шэрагам праблем, звязаных з прыродным комплексам, жыллём, вытворчасцю, дарогамі, інжынернымі сеткамі. Так, паводле слоў Уладзіміра Рыгоравіча, архітэктар павінен сабраць веды па ўсіх галінах, якімі займаюцца разнастайныя структуры і службы горада, і знайсці адзінае правільнае рашэнне з пункта гледжання аховы навакольнага асяроддзя, добрага размяшчэння і развіцця вытворчасці, а таксама жылля. Такі падыход да працы дазволіць эканамічна і рацыянальна выкарыстоўваць магчымасці дзяржавы.

## Аўгустоўскі канал як міжнародны маршрут

У горадабудаўніцтве, як і ў іншых справах, ёсць свае правілы і законы. За доўгія часы сваёй дзейнасці супрацоўнікі інстытута здолелі назапасіць выдатныя веды пра гарады, іх гістарычныя забудовы, тэрыторыі пасяленняў, развіццё транспартных сістэм. На працягу некалькіх гадоў вядзецца шчыльнае супрацоўніцтва з Польшчай, Літвой, Украінай па сумесным тэрытарыяльным вырашэнні пытанняў, асабліва тых, якія тычацца памежных тэрыторый. Так, сёлета 8 студзеня выйшаў загад Прэзідэнта "Аб распрацоўцы праектнай дакументацыі і пачатку прац па рэканструкцыі Аўгустоўскага канала". Гэты гістарычны комплекс неверагодна цікавы. І сёння, падчас працы над праектам, ідзе актыўнае супрацоўніцтва з Польшчай. "Яны дапамаглі адрэстаўраваць адзін шлюз з чатырох, а зараз плануем зрабіць і другі, які знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, — расказвае Уладзімір Рыгоравіч. — Палякі самі зацікаўлены, каб давесці канал да Нёмана, такім чынам яны атрымаюць магчымасць праводзіць па ім пазнавальныя экскурсіі і зарабляць на гэтым грошы. А мы зацікаўлены ў тым, каб дацягнуць водны шлюз не толькі да Нёмана, а па Нёману аж да Гродні". Сапраўды, ад гэтай працы можна атрымаць не толькі пэўны эканамічны эфект, але і зрабіць свой унёсак у культуру...

Што тычыцца развіцця малых гарадоў Беларусі, яно адбываецца на аснове разумнага прыкладання сіл. Напрыклад, малыя паселішчы і гарадкі, якія знаходзяцца на той жа тэрыторыі Аўгустоўскага канала, спыніліся ў сваім развіцці. "Аднак яны могуць атрымаць развіццё ў якасці турыстычных цэнтраў. Там вакол цудоўныя азёры, якія пакрысе становяцца зонамі адпачынку. Дый Парычы — выдатны горад, які здолее дасягнуць свайго развіцця з адкрыццём Аўгустоўскага канала як міжнароднага маршруту", — перакананы архітэктар.

Сам Уладзімір Рыгоравіч працуе над праектамі і генеральнымі планамі па Гродзенскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцям. Ён ведае сапраўдны стан многіх гарадоў, таму лічыць, што малыя гарады Беларусі трэба і можна ратаваць. Аднак, многае залежыць тут ад кіраўніцтва вобласці і тых гарадоў.

Калі разглядаць схему развіцця гарадскіх пасяленняў, можна заўважыць іх рост: гарадскія сёння складаюць 65 працэнтаў ад усіх пасяленняў рэспублікі. Мяркуецца, што да 2015 г. гэтая лічба дасягне 70 працэнтаў. Аднак, разам з тым пагаршаецца стан, як кажуць спецыялісты, узроставай характарыстыкі насельніцтва, якое пражывае ў тых пасяленнях. Так, калі ў 1980 г. старэйшае непрацаздольнае насельніцтва складала 18 працэнтаў, дык у 2005 г. чакаецца павелічэнне да 22 працэнтаў, а ў 2015 г. — 25 працэнтаў.

Ці вось яшчэ лічбы. Так, у абласных цэнтрах колькасць квадратных метраў жылля за 20 гадоў вырасла на 196 працэнтаў, у іншых гарадах — на 231 працэнт, у гарадскіх пасёлках і раёнах — на 204. Такім чынам, малыя гарады не адстаюць па тэмпах росту ад свайго абласнога цэнтра, а нават перавышаюць. Прырост квадратных метраў на чалавека ў малых гарадах складае 153—157 працэнтаў, у абласных цэнтрах — 135. Уладзімір Рыгоравіч некалі аналізаваў Магілёўскую вобласць і прызнаецца, што яго паказчыкі адносна будаўніцтва за апошнія гады рэзка павялічыліся.

У апошні час існуе мноства прыкладаў перабудовы і добраўпарадкавання гарадоў не толькі вялікіх, але і малых. БелНДІ горадабудаўніцтва здолела правесці архітэктурныя і будаўнічыя работы ў Бярозе, Баранавічах, Слоніме і іншых за кошт сродкаў, якія выдзеліла... нямецкая дзяржава.

## Увасобіць у перабудовах мастацкі вобраз

Падчас сучаснага планавання абавязкова ўлічваюцца старажытныя традыцыі. Прыкладам таму можа служыць горад Тураў, унікальны па сваёй гісторыі. У Слаўгарадзе вядуцца рэстаўрацыйныя работы царквы, званіцы, рэштkaў вежаў. А Мсціслаўль можна прыводзіць як добры прыклад спалучэння сучаснасці і гісторыі, архітэктуры — на цэнтральнай плошчы захаваліся вельмі старыя пабудовы. У Навагрудку прыведзены ў парадак і аднаўленыя домікі, якім па 100—200 гадоў і старадаўнія храмы. У выдатным стане сёння знаходзіцца і манастыр у Жыровічах, ён прыведзены ў парадак дзякуючы настаяцелям і людзям, якія жывуць у манастыры. У Мірскім замку праца вядзецца на працягу многіх гадоў, яшчэ шмат чаго варта зрабіць, але знешні выгляд у добрым стане. Мяркуецца, што Мір стане цэнтрам увагі турыстаў. Праўда, кажа мой суразмоўца, часцей здараецца так, што гарадкі і мястэчкі аднаўляюць тады, калі збіраюцца правесці там якое-небудзь мерапрыемства дзяржаўнага ўзроўню.

Супрацоўнікі БелНДІ горадабудаўніцтва вырашаюць розныя пытанні. Напрыклад, для Чэрыкава распрацаваны генплан з улікам той сітуацыі, у якой горад аказаўся пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пасяленні ў Чэрыкаўскім раёне адселены, паўднёвая частка раёна амаль не жывая і насельніцтва вымушана сёння жыць і працаваць у паўночнай частцы. Пры дамапозе генплана Чэрыкава азначана яго далейшае развіццё. Пры гэтым архітэктары ствараюць абыходныя шляхі, вырашаюць пытанні скарачэння выкідаў ад прадпрыемстваў, а таксама ствараюцца ўмовы для арганізацыі адпачынку людзей.

"Кожны генплан складаецца з мноства частак, — тлумачыць Уладзімір Ісачанка і раскладае перада мной карты. — Узяць хоць той жа Слаўгарад. Вось, глядзіце, зроблена ландшафтная праекцыйная схема тэрыторыі, дзе абазначана так званая "зялёная зона": паркі, якія варта ствараць, аднаўляць і захоўваць. У цэнтральнай частцы горада захаваныя будынкі гістарычнага значэння, вакол іх створана зона аховы помнікаў, побач з імі — участкі з меншай гістарычнай значнасцю. Характар пабудовы больш позняга перыяду варта захаваць у суадносінах з аб'ектамі, якія ахоўваюцца. Мы не плануем тут вялікіх будынкаў і захоўваем ландшафтныя зоны". Шчыра скажу, на паперы ўсё выглядае прыгожа, на макетах таксама. Думаю, праверу што атрымліваецца, калі прыеду ў Слаўгарад хаця б у камандзіроўку... "Я з вялікім задавальненнем займаюся іншымі гарадамі, а не беларускай сталіцай, паколькі Мінск, як і ўсялякі вялікі горад надта складаны. У ім цяжка працаваць", — прызнаецца Уладзімір Ісачанка. Адзначу, што БелДНІ горадабудаўніцтва... наогул не займаецца Мінскам!

Адзначу толькі, што праблема горадабудаўніцтва актуальная ва ўсім свеце. Сусветная арганізацыя архітэктараў пастаянна вырашае цэлы шэраг пытанняў на сур'ёзнай навуковай аснове, калі збіраюцца прадстаўнікі многіх краін. Іхні вопыт выкарыстоўваецца нашымі спецыялістамі. Зрэшты, як і вопыт айчынных спецыялістаў улічваецца ў разнастайных праектах з удзелам замежных архітэктараў.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**



Колькі разоў чытаю і перачытваю апавяданні і эсэ, з якіх і склалася ў Сяргея Рублеўскага кніга «Азярод» (Рублеўскі С. «Азярод», Мн., 2003). Уражаняў шмат, яны розныя, неадназначныя, пад рознымі вугламі зроку высвечваюць новыя і новыя адметнасці ў бачанні аўтарам сучаснага быцця і сведчаць аб актыўнасці яго жыццёвай пазіцыі, заглыбленай філасофскім асэнсаванні рэчаіснасці.

У рэшце рэшт мае чытацкія ўражанні сканцэнтраваліся ў адно аб'ёмнае, шматпланавае пытанне у трох яго іпастасях: «Што ж усё-такі для творцы з'яўляецца вызначальным?», «Што ёсць квінтэсенцыя яго светаўспрымання?», «Наколькі «Азярод» адпавядае праўдзе жыцця?».

вах дэкларуюць сяброўскасць і таварыскасць. Таму і радкі, прысвечаныя сваёй «маленькай» радзіме і шчырыя, і перанакаўчыя. Звярніце ўвагу: «Выйдзеш марознай ранічкай на ганак, хукнеш — і вось гэтае воблачка цёплага мроіва і ёсць наша жыццё. Куды сплылозбруілася... (Хукі, як хоку.). Ці ячэчэ. На Глыбоччыне, параўнальна недалёка ад хаты пісьменніка, ёсць вядомае возера Шо. Здаўна яго шануюць людзі, ведаюць легенды, якія дасталіся месцічам у спадчыну. Задаўшы для сябе пытанне: «Што там цудадзейнага?», Сяргей Рублеўскі для чытача дае такое тлумачэнне: «Таямніца возера толькі ў ягоным назове: ШО-0-0 — нібы запаўзае вужом у рукаў світанкавы халадок ад вады. Развінуліся заманлівыя абсягі ў вяр-

пастулатаў. Колькі прыкладаў:

— «Адзінота — рэзервацыя метафізічнай існасці чалавека».

— «Беларусы... Мы жывём у рэзервацыі паўзы, якую баімся парушыць, каб не ўсчалося горшае».

— «Мора агромністае, як мы суадносілі яго з абсягамі сваёй мужнасці».

— «Мора — найлепшая шкала для вымярэння адчаю».

(«Рэзервацыя і мора»)

— «Найпраўдзівейшая ад усіх кашуля — белая, нацельная, асабліва тая, што пашыта з матчынага пасаговага сувою...».

— «Прахалода накрухмальнай кашулі ў адчайнай далечыні сунімае юрлівую палкасць, лагодзіць пяшчотай, не раўнуючы як родная сястрыца».

(«Кашуля»)

сваім эсэ «Хасідская загагуліна Марка»: «Марк (Шагал — **А.Р.**), як і кожны смяротны чалавек, відавочна, ніякавеў перад святым тэкстам. І нават больш таго, бо нязводна адчуваў у сабе ўсвядомлены грэх парушэння Майсеевага запавету — узяўся за Божае, асмеліўся маляваць тое, што на небе, на зямлі і на вадзе. І, вядома, як праўдзівы юдэй, дужа пакутаваў. Але зноў і зноў паддаваўся сваёй зямной слабасці, людскому блазнаванню. Адчуванне граху засела ў яго душы балючай стрэмкай. Каб прытушыць гэты боль, Марк падсвядома нівеліраваў відарыснае і вербальнае. Па сутнасці, ён імкнуўся не ўзвысіцца ў сваім асяроддзі, а зраўняцца з мужамі, якія праводзілі жыццё ў чытанні-тлумачэнні Торы ды іншых сакральных кніг. Ягоныя

# Літаратурны «азярод» ад матэматыка Сяргея Рублеўскага

Адказ знайшоўся нечакана — як толькі звярнуўся да назвы кнігі: «Азярод» — паняцце, якое было паўсюдным у абіходзе нашых продкаў і якое не так ужо часта выкарыстоўваецца імі сёння».

А як тлумачыць яго аўтар кнігі? Звернемся да яго трактоўкі: Азярод — плот, на якім нашы продкі сушылі (і сушаць — рэмарка мая — **А.Р.**) намоклую атаву ды розныя сцёблы, каліўё і жыта»). Тлумачэнне — амаль энцыклапедычнае, але ў ім бачна светаўспрыманне аўтара, яго творчая пазіцыя. А таму і надзея: «...а адно ці колькі зярнятак (расыпаных у «Азяродзе» — **А.Р.**) прарастуць у чыёй-небудзь чулай беларускай душы». Вось яна пазіцыя пісьменніка, настаўніка, журналіста: «Не будзьце пасіўнымі, эгаістычнымі, не думайце толькі пра сябе, а шукайце, стварайце..., і добрыя вашы правы прарастуць у сэрцах і свядомасці суайчыннікаў».

Заўважым, што для С. Рублеўскага — гэта не проста дэкларацыя. Ён шукае і знаходзіць адказ на тое, што павінна прарасці, што мы павінны бачыць, памятаць, пра што не павінны забывацца? Аўтар «ныруў» у шматпланавае кола праблем этычных, філасофскіх, этнаграфічных, побытавых і іншых, і так перараканаўча данёс іх да чытацкай свядомасці, што не даверыць яму нельга.

Арыентуючы чытача на тое, што гэта пісьменніцкае разуменне нашага жыццеіснавання, я пашукаў тыя вузлавыя, вызначальныя элементы такога разумення рэчаіснасці. Спачатку (тут да месца будзе ўспомніць пра спецыяльнасць С. Рублеўскага — ён выкладчык матэматыкі, выпускнік матэматычнага факультэта ВДУ імя П.М. Машэрава) стаіць глыбокае разуменне і выверанаe (можа, не заўсёды матэматычна. А гэта і зразумела — матэматыка не так ужо далёка ад філасофіі) філасофскаэтычна-літаратурнае асэнсаванне нашых рэалій, таго побыту, які заўсёды з намі і які (як здаецца!) нічога цікавага не ўяўляе.

Аднак, ...з матэматычнай дакладнасцю Сяргей Рублеўскі фіксуе жыццёвыя сітуацыі, паводзіны знаёмых (і, нават незнаёмых) людзей, дае ім выверанаю, трапную адзнаку. І, пры гэтым, не толькі праз сваю аўтарскую ацэнку, але і праз думкі сваіх герояў, сваіх родных і блізкіх. Ну вось колькі радкоў з аўтарскага разважання («Мамін шэпт пад абразамі»: «Мама засцерагае, каб я «не лез у палітыку», менш адкрываў людзям свае погляды». «Глядзі, сябры першыя прададуць...», — дзеліцца яна сваім сумнадосведам».

А, што не так?! Калі і прадаюць, дык толькі сябры... Ці, можа, час такі? Ці мы штосьці ў нашым жыцці парушылі, а, можа, і згубілі? Старыя людзі заўсёды верылі ў чэснасць суседскіх адносін, у іх бескарыслівасць і адкрытасць. А цяпер? Культывацыя эгаізму, насаджэнне «суперпраяў», і — звычная беднасць, сацыяльная адзінота, «самачынна-ўтвораная рэзервацыя» («Рэзервацыя і мара». ).

Мабыць, таму і звяртаецца раз-пораз С. Рублеўскі да таго месца, дзе нарадзіўся і вырас, дзе і сёння знаходзіць душэўны спакой і адпачынак ад гарадской мітусні, ад тых, хто толькі на сло-





бальным свеце, а ў рэчаіснасці — усяго толькі сцвярджоныя словы. «Шо... рэзт чоўны ў чаротавых засенях...» — і я ўжо там». Бачыце толькі шоргат чарота — «і я ўжо там». А колькі ж мы забываемся пра родныя мясціны? Колькі з нас не даязджаюць да роднай (а, магчыма, і сышоўшай з геаграфічнай карты Беларусі) вёсачкі? А тут! Толькі шоргат чарота...

Мне асабіста думаецца, што ў гэтых вось праніклёных радках, і «хаваецца» тая квінтэсенцыя, пытаннем аб якой я задаваўся трошкі вышэй. Што можа для асобы творцы быць больш значным, больш уражлівым і «более всего выражаемом», як адносіны да бацькаўшчыны, да родных дзіцячых мясцін. Менавіта ўсё гэта і складае змест такога значнага філасофскага паняцця, як патрыятызм. Ці, як цяпер часта кажуць, «нацыянальнай ідэі». У С. Рублеўскага побач з роднымі мясцінамі — маці. А інакш не павінна быць — гэта яна шкадуе збітыя ў дзяцінстве ручкі і калені, гэта яна ахоўвае і перажывае за нас у час нашых хвароб і жыццёвых нечаканасцей; гэта яна дае нам выверанья жыццём парады; гэта яна супакойвае нас у час адчаю. І не толькі ў адным маленькім накідзе «Мамін шэпт пад абразамі», але і ў невялічкіх літаратурных замалёўках «Чысціня ў чырвоным куце і ў кожным куточку душы», «Жывісь», «Шлях» і інш., як мне здаецца, поўны працяг тэмы «Радзіма-Бацькаўшчына-Маці». І гэтыя, і іншыя творы толькі умацоўваюць тую непарушную народную традыцыю: Паважаеш Маці — шануеш Бацькаўшчыну.

Філасофскае асэнсаванне Сяргеем Рублеўскім сучаснасці бачна амаль што ў кожным радку кнігі. Але, як мне здаецца, усё ж лепш пачытаць тыя, у якіх аўтарская пазіцыя сфармулявана максімальна канкрэтна і паўстае перад чытачом у форме філасофска-этычных

— «Эгаізм — гэта неўсвядомлены супрацьў чалавека сваёй немагчымасці адпавядаць ідэалу».

— «Каханне — гэта акторства цела, якое бярэ на сябе ролю стваральніка свету».

— «Калі жыццё скончылася, яго можна толькі надтачыць».

— «Па-сапраўднаму вясёлы той, хто не баіцца, не асцерагаецца гора».

— «З гадамі жыць хочацца ўсё менш і менш... А трэба!».

— «Як маеш добрае здароўе, дык можна адпачываць і на прыродзе,

(«Жменя самасейнай цыбулі»)

Дарэчы, такімі жыццёвымі «філасафізмамі» прасякнуты амаль што ўсе творы, змешчаныя ў «Азяродзе». Трэба толькі адпаведнае жаданне чытача, каб адшукаць і пазнаёміцца з імі.

Не пакінуць кожнага з нас раўнадушнымі і замалёўкі Сяргея Рублеўскага, зробленыя ў часы паездак за мяжу, ці ад сустрэч з замежнымі гасцямі. Напрыклад, у Швецыю («Дождж у Стакгольме»), Германію («Гаротны, як мы», «Просты кум Казіміра», «Чып») і інш. А пачытайце разважанні пісьменніка пра калег па творчасці — пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў. Вось якімі «мазкамі» ацэньвае нашага земляка С. Рублеўскі ў

вывы выструніліся да эфемернай субстанцыі думкі, калі не мае аніякага значэння гравітацыя, трохмерnасць прастоpы, анатамічная будова чалавечага цела, будзённая прадвызначанасць рэчаў. Толькі размаітасць каляровага сугучча як неадольнае здзіўленне перад веліччу Божага свету пульсуе ў праёме рамы ў рытме сэрцабіення. Слабы ў сваёй веліччасці чалавек...».

Мяркую, што прачытаўшы гэтыя словы, чытач пагодзіцца з маёй думкай: сканцэнтраваць у адным абзацы і ўласную думку, і веданне адзнак сусветнай вядомасці Шагала, і дыялектыку філасофскага, і эстэтычнага — мог толькі

таленавіты чалавек. Аўтар — ён матэматык. Але ж яму хочацца спасцігнуць, як мог Марк з Бэлай «плаваць» над Віцебскам, ці як ён мог падняць у паветра звычайную карову, ці яшчэ што-небудзь... І вось ён даў такую характарыстыку, што, на мой погляд, яна займе належнае месца ў шагалаўскай энцыклапедыі.

А ўменне прыцягнуць увагу чытача да твора: «Мы ляжалі пад коўдрай, пераплеценыя, як сцёблы даўгунцу...». Без эротыкі, але кожны разумее, аб чым ідзе размова...

Я мог бы назваць і хібы, якія С. Рублеўскі дапусціў у «Азяродзе». Яны ёсць — кожны з нас імкнецца хутчэй выразіць сваю думку, асабліва ў друкаваным выглядзе. А таму — пагрэшнасць магчымая...

Але сутнасць у галоўным: «Азярод — гэта прызма тых праблем сучаснасці, якія Сяргей Рублеўскі, дзякуючы таленту, занатаваў і данёс да чытача. І гэта кніга, якая знойдзе чытача не толькі на Віцебшчыне, але і на ўсёй нашай беларускай тэрыторыі.

Чытайце «Азярод»!

**А. РУСЕЦКІ**

# Пра культуру дыскусій — 2

## (з уласнага вопыту)

Я даволі эмацыянальны і нераўнадушны да многага чалавек. У прыватнасці — да літаратуры, якой займаюся. Таму актыўна ўключаюся ў розныя дыскусіі і імгненна адгукаюся на палемічныя артыкулы ў друку. Адным словам, удзельнічаю ў авантурах, якія дальнабачны літаратар абыходзіць, а рызыкоўны не. Добра гэта ці кепска — справа густу, характару і ўласных перакананняў. Але пагадзіцеся: наяўнасць хоць нейкага скандалу ў літаратурным асяроддзі абуджае спакойна-размеранае існаванне творчага люду, выводзіць яго з аморфнага стану зацягнутай спячкі. Сёння сітуацыя такая, што рабіць гэта ўсё цяжэй: гучаць адзінокія галасы, а рэха затоена маўчыць, толькі зрэдку прарываючыся нястрымна-абураным розгаласам.

Усё пачалося з таго, што пяць гадоў таму «Звязда» змясціла мой матэрыял «Літаратурнае ашуканства?» (25 верасня 1999 года), у якім я па юнацкай наіўнасці спрабаваў разабрацца ў адарванасці пісьменнікаў ад грамадства, іх маральным вобліку. Максімалісцкія сентэнцыі правінцыяла засталіся непачутымі. І я кінуў дурное: крычаць у пустату. Пераключыўся на рэцэнзіі, дзе паспрабаваў «увасобіць у жыццё» свае высокія (у сэнсе — ідэальна-правільныя) літаратурныя памкненні. І адразу ўбачыў «плён» сваёй «падзвіжніцкай» дзейнасці — мора крыўды і пакрыўджаных. Канечне, адна справа — разважаць абстрактна, з налётам акадэмічнай тэарэтычнасці і зусім іншая — «праходзіць практыку» на канкрэтных прыкладах, мастацкіх творах.

Пасля «Сурагату» («ЛіМ», 8 снежня 2000 года) мяне, студэнта-трэцякурсніка мясцовай ВНУ, пачалі «выхоўваць» выкладчыкі «роднага» філфака: маўляў, нельга так з тутэйшымі паэтамі абыходзіцца, а з аўтарамі прадмоў да іхніх «высокамастацкіх» зборнікаў — тым больш, яны ж твае настаўнікі, заслужаныя людзі навукі. І пачалася нейкая непрымірымая варажнеча — бясконцыя павучанні і дробнае паскудства. Асабліва пасля таго, як летась у «ЛіМе» з'явіліся дзве крытычныя рэцэнзіі на «шэдэўры» берасцейскіх літаратараў, і не абы-каго, а членаў Саюза пісьменнікаў — Васіля Дэбіша («Дзе прынц твой, мілая Марыя?», 6 чэрвеня 2003 года) і Зінаіду Дудзюк («Ну і ню!», 26 верасня 2003 года).

Пры сустрэчы з першым той спярша хацеў мяне пакалаціць: знявага міжнароднага маштабу! Пасля супакоіўся, падумаў і сказаў, што «саставу злачынства» ў маім «неджэнтльменскім» учынку не бачыць — халтура ёсць халтура. І паабяцаў (!) істотна перарабіць кнігу, патрабуючы (!) напісаць на яе, дапрацаваную, новую рэцэнзію. Ніякіх праблем! Нармальны творчы працэс.

Горш аказалася з другой аўтаркай, якая тут жа выступіла ў «ЛіМе» з артыкулам у абарону сваёй годнасці, пачаўшы з'едліва «даследаваць» разумовую паталогію крытыкана (хоць ужо яму ў суд з сустрэчным іскам звяртайся): гэта ж трэба ў адкрытую здзекавацца з жанчын, асабліва пісьменніц, смяяцца з іх літаратурных здольнасцей і г.д.! Прычым цалкам беспакарана, адкідваючы ўсялякую недатыкальнасць. Безумоўна, кожны мае права на ўласную думку. У межах звычайнай прыстойнасці. Але навошта бачыць у шараговай крытычнай рэцэнзіі патаемны падтэкст, звышсэнс, скіраваны не на аб'ект размовы (твор), а непасрэдна на ягонага аўтара, быццам такім чынам я зводжу з ім свае асабістыя непрыязныя рахункі? Вось дзе паталогія — бачыць тое, чаго няма!

Сёння З. Дудзюк абыходзіць мяне бокам і, зразумела, не вітаецца, хоць да той «злашчаснай» рэцэнзіі мы даволі часта сустракаліся, разважалі аб літаратуры; пісьменніца нават давала бясплатныя ўрокі ўласнага творчага майстэрства: маўляў, нядаўна (дажыўшы амаль да пенсіі!) адкрыла міфалогію і ўсходнюю літаратуру. І вось «аддзячыў», плюнуў у твар атрымліваецца. Крыўда на ўсё жыццё... Нібыта ў гэтым і ёсць самамэта маіх «насмешлівых» дзеянняў. Не любім мы крытыкі, нават заслужанай, бо тут трэба найперш пераступіць праз сябе — уласныя амбіцыі і незразумелыя крыўды, быць вышэй бытавых дробязей, што заўсёды складана. Чалавечая натура, як вядома, недасканалая.

Калі пачалася звяздоўская дыскусія, застацца ўбаку я не мог. Як не мог і падумаць, што артыкул «Які час — такія творы» (5 чэрвеня 2004 года) выкліча бурную рэакцыю ў мімаходзь «пакрыўджаных» там. А. Федарэнка не дараваў нейкаму другасортнаму крытыку-правінцыялу ўчыненай над ім (а дакладней — ягоным раманам «Рэвізія») «злачыннай» і «абразлівай» «экзекуцыі». Чаго-чаго, а такіх зняважлівых рэплік у свой адрас ад Андрэя Міхайлавіча я не чакаў. Чым заслужыў падобнае непрыманне — загадка. Здаецца, дарогу на цёмнай вуліцы не пераходзіў, грошай не пазычаў, каханую дзяўчыну не адбіваў... Некалі Андрэй Міхайлавіч сам (!) даслаў ліст аб супрацоўніцтве, а сёння разгалошвае нюансы колішняй перапіскі, прычым робячы тое наўмысна скажона, выдумляючы факты, каб «апусціць» мяне ў вачах чытачоў і як чалавека, і як літаратурнага крытыка. Той, хто разумее пікантнасць сітуацыі, зробіць адпаведныя высновы і цішком пасмяецца, а хто не? Стане маім ворагам разам з А. Федарэнкам. Абсурдна...

Часам думаеш: а навошта табе ўсё гэта?! Ворагі, якіх магло не быць. Спявай дыфірамбы, атрымлівай узаемныя кампліменты. А змаганне за якасць пачакае. Бо ўсё роўна асуджана на паражэнне. Але ж у нармальным грамадстве павінна існаваць нармальная крытычная думка, няхай і суб'ектыўная, якая не дае зарасці літаратурнаму агароду лопухам і асотам. Выходзіць, некаторых такі агарод задавальняе...

Так атрымалася, што са звяздоўскай «перапалкай» супала публікацыя яшчэ аднаго майго артыкула «Пасрэднасць і халтура — не ёсць літаратура» («Настаўніцкая газета», 22 чэрвеня 2004 года), дзе я выказаўся адносна змешчанага інтэрв'ю з Евай Лявонавай, якая часам рабіла спрэчныя, на маю суб'ектыўную думку, супастаўленні нашага пісьменства з еўрапейскім. Ратуйся, хто можа! Рэдактар аддзела культуры «НГ» Мікола Чэмер (Гілевіч), прачытаўшы звяздоўскі «адлуп» А. Федарэнкі, таксама ў даўгу не застаўся, змясціўшы паралельны каментарый з безліччу цытаванняў Алеся Адамовіча як надзейным прыкрыццём з тылу. Атрымалася тое досыць непераканаўча і паверхоўна — поўная нязгода і ўсё тут, ніякай аналітыкі і жадання разабрацца ўсур'ёз. Куды важней пастаянна і недарэчна напамінаць чытачам, што аўтар «пасквіля» працуе... сацыяльным педагогам у школе, нібыта паводле такога «непрэстыжнага» сацыяльнага статусу і плявузгае абы-што, ні ў чым не разбіраецца, а значыць — не мае ніякага маральнага (!) права «замахвацца» на святое, гаротную беларускую літаратуру і непарушных аўтарытэтаў.

Відавочна, што пра нейкую ісціну, народжаную ў падобных аднабаковых псеўдаспрэчках, дзе кожны не бачыць далей уласнага носа-бульбіны, казаць не прыходзіцца. Больш таго — непрымірымыя «баталіі» на літаратурным фронце правакуюць узнікненне новых канфліктаў, якія будуць адыходзіць ад прадмета дыскусіі ўсё далей, зацыкліваючыся на ўласнай непераносімасці адзін аднаго, прынцыповым нежаданні пачуць іншых, даць права на супрацьлеглую думку, погляд, іх адстойванне — свабоду выказванняў.

Артыкул Леаніда Галубовіча «Пра культуру дыскусій» («ЛіМ», 13 жніўня 2004 года) яскрава паказаў падобны антаганізм ва ўдзельнікаў разнастайных спрэчак і палемік, калі два і больш «чалавечыя розумы-інтэлекты» нараджаюць праблемы, якія і выедзенага яйка не каштуюць, бо ў іх аснове — звычайная жыццёвая «бытавуха», вынесеная на ўсеагульны паказ і абмеркаванне. Ісціна як «спараджэнне гармоніі ў стасунках Прыроды і Чалавека» недасягальная. Тады навошта падчас яе пакутлівых шуканняў перашкаджаць адзін аднаму знявагамі, кпінамі, публічным «фу», калі мэта адна — «сцвердзіць сябе ў вечнасці», пакінуўшы варты наробак, нават «не спадзеючыся пры гэтым на водгук і разуменне»?..

Яшчэ ў Бібліі напісана: «Не раскідвайце бісер перад свіньмі, бо тыя павернуцца і растопчуць вас». Як прымяняльна да сёняшняй літаратурнай сітуацыі... А мо я памыляюся?

Ці будзем мы калі-небудзь іншымі? Непакрыўджанымі!

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**
**г. Брэст**

**ВЫДАННІ**




Аркадзь Тоўсцік, якога многія яшчэ памятаюць як рэдактара газеты "Звязда" (1973 — 1986гг.), прапануе чытачам аўтабіяграфічны аповед "Лістапад". Твор з'яўляецца своеасаблівай заключнай часткай яго кнігі ўспамінаў "Вяртанне да вытокаў сваіх" (1997, 2000гг.).

Аўтар прызнаецца: "Выдаю "Лістапад" наўмысна асобнай кніжкай. У ім нейкі дадатак да ўжо сказанага раней. І новыя ўспаміны, навеяныя часам, самім жыццём".

# Спроба разабрацца...

Да 2003 г. я не сумняваўся ў дыферэнцыяцыі мастацкай творчасці па гендэрных чынніках і прыкметах. Мая інтуіцыя рэдка падводзіла пры вызначэнні аўтарства літаратурных твораў на прадмет полавай прыналежнасці. Апрыёры эстэтычная перавага аддавалася творчасці аўтараў-мужчын. Аднак я не імкнуўся прааналізаваць такое становішча, не спрабаваў высветліць — чаму? Чаму наогул аўтаматычна ўключаецца такая дыферэнцыяцыя і чаму яна існуе? Маё ўсведамленне, ratio не паднімалася вышэй разумення таго, што ёсць нейкі мужчынскі пачатак у творчасці і — адпаведна — жаночы.

Гэта адбывалася да "сутыкнення" спачатку з творам празаіка жаночага полу — Вольгі Гапеевай, раман "Рэканструкцыя неба", потым — з музычнай творчасцю гурта "Ночные снайперы", "генератарам" якога з'яўляецца жанчына (дарэчы, калі не памыляюся, беларуска), і нарэшце мяне "дабіла" сустрэча з паэткай Ларысай Мілер. Я быў не проста ўражаны імі. Мае пачуцці былі ўзведзены ў квадрат яшчэ і тым, што творчасць гэтых аўтараў не дыферэнцыравалася скрозь прызму гендэрнага стэрэатыпу, але менавіта іх творчасць у маім "хіт-парадзе" 2003 г. заняла першыя месцы па сваіх "намінацыях".

У творчасці згаданых жанчын іх жаноцкасць гарманічна і сінкрэтычна спалучаецца са сваім прыродным візаві — мужчынскім пачаткам. На маю думку гэта адкрыта прасочваецца ў творах. В. Гапеева ў рамане свайго галоўнага героя надзяляе то жаночым полам; то мужчынскім. Салістка "НС" пераканаўча спявае ад імя лірычных герояў абодвух палоў. А ў Л. Мілер хоць і не сустракаў такой (лепей сказаць па-руску) двуполярности, аднак для яе:

*...полон каждый закоулок*
*Души томлением, тоской*

*По женской рифме и мужской.* (Курсіў мой — **А. Т.**)

Думаю, тлумачыць не трэба, што я ўбачыў у падсвядомым падтэксце.

Між іншым, тут можна ўзгадаць і моду на культуру "унісекс". Было б дзіўна, каб гэтыя фактары не паўплывалі на літаратурнае жыццё.

Існуе таксама і боль як крыніца творчасці, а ён яшчэ на працягу XX ст. стаў "агульным", "аднолькавым". Боль стаў экзістэнцыйным. Цяжка сказаць дакладней і працей Л. Мілер:

*Страшно ей (душе —),*
*что жизнь продлится.*
*Страшно, что прервется*
*вдруг.*

Тут лірычная гераіня выяўляе сябе асобай жаночага полу. Аднак у ёй гаворыць не гэтая асоба, а менавіта душа, якая полу не мае. Пагэтаму і таму, і другому полу — страшна.

Літаратура для мяне і надалей будзе разглядацца скрозь прызму аўтаматычнай дыферэнцыяцыі па гендэрнай прыкмеце.

У гэтым пытанні некаторыя кропкі над "і" застаюцца нерастаўленымі. Дадатковага даследавання патрабуе феномен такіх, як вышэйзгаданыя аўтары (аўтаркі). Бо і жаноцкасці, між іншым, у іх не аднімеш, і разам з тым у іх творчасці няма ірацыянальнага кола "жаночых" комплексаў, ва ўсялякім выпадку яны не прэваліруюць.

Дык у чым жа ўсё-такі справа?!

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**



Ілона СЦЯЦКО

* * *

*Хачу пабыць адной.*
*У цішыні.*
*Пры лямпе, ці пакорлівым*
*агні.*
*Хачу пабыць адной.*
*Хай музыка прастору ахіне*
*і ціхенька пральецца праз мяне.*
*Хачу пабыць адной.*
*Хай змоўкнуць рухі,*
*сыдуцца масты.*
*Я вынішчу сябе.*
*За тым...*
*хачу пабыць адной.*

* * *

*Мне радасць лёс здарыў,*
*ды хутка адабраў.*
*Сышла на горкі клін*
*трывалая зямля.*
*"Чым страціць, лепш не мець" —*
*сабе сказала я, —*
*тым меней будзе спраў,*
*не будзе так балець".*
*Мне радасць лёс здарыў,*
*мой рыватворны лёс,*
*ды ўсё, даволі слёз,*
*агнём яны гары.*

* * *

*Зусім не дэманічнае стварэнне,*
*я па зямлі ступаю не варожа,*
*святло нясу,*
*святло і разбурэнне,*
*і ведай жа, мая цяжкая ноша.*

*Я на мяжы падтрымліваю вехі,*
*я на зямлі люляю раўнавагу,*
*слязьмі мае змяжаюцца павекі, —*
*я з сэрца вынішчаю гэту цягу.*

*Крычыць душа, упаўшы на калені,*
*крычаць праз боль —*
*адзіная раскоша.*
*Святло нясу, святло і разбурэнне,*
*і ведай жа, мая цяжкая ноша.*

* * *

*Ад гарачай Чорнай Русі*
*я прыйшла да белых азёр.*
*Я прыйшла гэты край прасіць*
*стаць мне хросным,*
*як мой памёр.*
*Я прашу — хай яму цяпер*
*будзе кінуты зорны б р а с л,*
*няхай ён на зямлю яшчэ*
*прыйдзе, прыйдзе*
*у добры час.*
*Заблукала яго душа*
*сярод белых нябёсных крыг,*
*я ж да белага краю прыйшла*
*каб мяне ён хрысціў у віры.*
*У віры святла, чысціні,*
*у азёрных сваіх струменях,*
*я прыйшла парадніцца з ім,*
*я прыйшла, каб абраць імя.*
*Прычасціцца да светлых сіл,*
*памаліцца да блізкіх зор,*
*ад гарачай Чорнай Русі,*
*я прыйшла да белых азёр.*

* * *

*На тым баку сонца*
*круціцца жоран,*
*над галавою*
*кружыцца воран,*
*вешчая птушка*
*горкай краіны,*
*верная служка*
*кольнага тыну.*

*Крылы раскінуў*
*выцвілым крыжам,*
*кажа пра волю*
*вечнага ўзвышша.*

*На чорнай шыі*
*светлы каўнерык,*
*на зямлю ўпала*
*белае пер'е.*
*Каб урадзіла*
*лепшую долю*
*белым калоссем*
*чорнае поле.*



Мікола МЯТЛІЦКІ

## Вяшчун

*З даўно забытае пары*
*Брыдзе падання струмкі сказ.*
*Магутнік-волат, дуб стары,*
*Вятрамі сечаны не раз,*

*Аздобіў велічна курган.*
*Над ім раскатна гуў Пярун.*
*Паблізу чорны, як груган,*
*У хатцы жыў мудрэц-вяшчун.*

*Вясной гуллівая рака*
*Грымела крыгамі. Яна*
*У свет гукала юнака*
*Рамонка, сына вешчуна.*

*Гарача ў жылах маладых*
*Бурліла кроў. Быў хлопец — хват!*
*Не раз услед гучаў уздых*
*Ім зманна ўкрыўджаных дзяўчат.*

*Ды вось з бацькоўскіх вуснаў ён*
*Наказ пачуў — няма стражэй:*
*— Кахай адну да скону дзён,*
*Каго не знаеш даражэй!*

*Рамонак змоўклы сэрцам згас,*
*Хадзіў самотны між палёў.*
*Мінуўся сум — праз хуткі час*
*Да бацькі Шчарыцу прывёў.*

*— Вось тая, хто мне даражэй*
*За скарбы неба і зямлі!*
*А сонца ў небе ўсё вышэй,*
*І дні спякоты надышлі.*

*Трымцеў лісцём ашэрхлы дуб.*
*Вяшчун унурыў галаву.*
*Сухотны вецер злосна скуб*
*Наўкруг пажухлую траву.*

*Ужо ні кроплiны вады,*
*Канаў ад смагі змоглы люд.*
*І рукі ўзнёс вяшчун тады*
*У неба, молячы пра цуд.*

*Ды грымнуў голас Перуна*
*Над перасохлаю зямлёй:*
*— Прыйшла пара плаціць спаўна*
*Мне чалавечаю крывёй!*

*Не ты, нямогліца стары,*
*Хто страціў з векам сілы ўсе, —*
*Ахвяру тую на зары*
*Твой сын няхай мне паднясе!*

*Яму у рукі гойстры нож*
*Аддай, як дар, нямоглы жрэц!*
*Хай вершыць суд. І хлыне дождж*
*Над дубам, неба пасланец.*

*Вяшчун Рамонка спешна зваў*
*У той трывожны, смутны час:*
*— Ты, сыне, чуў, аб чым казаў*
*Пярун, угневаны на нас.*

*Пад дуб разгалы на курган*
*Прыйшоў зусюль сасмяглы люд.*
*І задаволена груган*
*Глядзеў з вышы на дрогкі спуд.*

*Стаяў Рамонак, сцяўшы нож,*
*Пад дубам ссохлым, як зладзей.*
*Маўчаў натоўп. Умольна: —*
*Хто ж?! —*
*Вяшчун вачмі пытаў людзей.*

*Рамонак скрушны ценем зла*
*Кідаў пагляд ва ўсе бакі.*
*З натоўпу Шчарыца ішла.*
*І ён — нож выпусціў з рукі.*

*І крыкнуў нема: — Бацька, не!*
*Ляцела ў неба ў цішыні:*
*— Забі, пражэрнае, мяне!*
*Яе ж — і пальцам не крані!*

*— Я не магу так жыць, павер.*
*Душа збалела ад жуды.*
*Не толькі людзі, нават звер*
*Не мае кроплiны вады.*

*Памерлі маці і сястра,*
*І бацька ў хаце — ледзь жывы.*
*Няхай сысці мая пара*
*Раней на дзень. Жывіце вы!*

*І штосьць на вуха юнаку*
*Сказала, ўцёршы іскры слёз.*
*І той бяспамятна руку*
*Над ёй, пакорнаю, занёс.*

*Крыві гарачае струмень*
*Па дуба ўсохлай біў кары.*
*І ўраз пагас спякотны дзень,*
*Сырыя ўздрыгнулі вятры.*

*Прыгналі космы чорных хмар,*
*І дождж запеў мільёнам струн.*
*З нябёс на змрочлівы абшар*
*Зайшоўся рогатам Пярун.*

*Вады свавольная бруя*
*З-пад дуба бегла па грудку.*
*— Ці чуеш, любы, гэта я?*
*І Шчарай люд назваў раку.*

*Рамонак, стаўшы вешчуном,*
*Пражыў, казалі, доўгі век.*
*Хадзіла сэрца хадуном,*
*Калі Пярун аблогі сек.*

*І гасла дзённае святло,*
*Зяхала вуханне грымот.*
*І ўжо ніколі не было*
*Па-над зямлёй такіх спякот.*

## Карона

*Скача вершнік — топча травы,*
*За спіною стольны Кракаў.*
*У карчэўі вогнік млявы —*
*Стан разбойнікаў-ваякаў.*

*Хоць імчаў сюды і доўга,*
*Выдых з радасцю шалёна:*
*— Заўтра з Кракава Міндоўгу*
*Павязуць яго карону!*

*— Ну, а скуль,*
*з якой дарогі,*
*У цябе такія звесткі? —*
*Атамана позірк строгі*
*У агонь уздыбіў трэскі.*

*— Каб жа спрах я!*
*Нёсся птахам*
*З весткай,*
*брацці дарагія!*
*— Адпусціл!*
*Значыць прахам*
*Лягуць вершнікі другія.*

*Мкне разбойніцкая світа*
*У паход пад сховай ночы.*
*Вось карону прагавіта*
*Атамана лашчаць вочы.*

*— Ух алмаз!*
*Аж бельмы рэжа,*
*Як іскрыцца*
*ў бляску поўні!*
*Што сабор —*
*чатыры вежы,*
*Ну і ўпраўду —*
*скарб чароўны!*

*Паімчала злыдняў зграя*
*Дальш уезджаным*
*гасцінцам.*
*А Міндоўг дарма чакае —*
*Не аб'ехаць дубачынцаў!*

*У палацы — крыўды ахі*
*Ходзяць уздыхамі,*
*як хвалі.*
*Князь не ведае, што ляхі*
*Глум яму падрыхтавалі.*

*Што сам круль, зацяты помснік,*
*Не прытоена раўніва*
*На карону ноччу позняй*
*Сквапна зыркаў, як на дзіва.*

*Што, шалеючы ад пыхі,*
*Раптам змяк, як ліст падвялы.*
*І зміяўся скрыгат ціхі:*
*— Разбягаюцца васалы...*

*— Зайздрасць Вавеля вядома! —*
*Князь чакае, ходзіць бледны.*
*Тайна выкавалі дома*
*Абадок-заменнік медны.*

*Сонца ў дзень той над Літвою*
*З марай вольнасці згасала.*
*Секла крыўда крапівою:*
*Каранацыя васала!*

*Пазабыўшы даўні смутак,*
*Паўжартоўна, без трызвону,*
*Свету кажа Навагрудак*
*Пра Міндоўгаву карону.*



Мал. Ул. Лукшы

# Сечка-3

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**



## 1.

Вельмі дапускаю, што эстрадны спявак Барыс Майсееў адзін з самых яскравых прадстаўнікоў нашага дзесяцімільённага народа.

Цалкам пагаджаюся, што ён мае нейкае дачыненне да Дня вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ці да Дня незалежнасці Беларусі.

З іншага боку разумею і тых тры тысячы ветэранаў ВАВ, што запатрабавалі зняць са святочнай праграмы выступленне адыёзнага спевака.

Але забіце мяне: не дапускаю, не пагаджаюся і не магу зразумець вось гэтую інфармацыю: "Но гонорар за так и не взошедшую "Голубую луну" Борис получил" ("Камсамольская праўда", 9 ліпеня 2004 г.).

Даруйце – які ганарар? За што? У якой суме? З чыіх грошай? Па якім ведамстве праходзіла? І як загадаеце разумець гэта дзесяткам, калі не сотням аўтараў, напрыклад, рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва"? Сярод якіх і вядомыя пісьменнікі, і акадэмікі, і вучоныя, і ветэраны вайны... Якія месяцамі ў вочы не бачаць нават сваіх мізэрных (у параўнанні з Барысавым) ганарараў? Яны што, людзі нейкага іншага, ніжэйшага, чым Майсееў, гатунку? Хіба яны менш, чым Бора, працуюць на карысць Беларусі?..

Хаця, зрэшты, пара ўжо даўно перастаць задаваць гэтыя ў нікуды і ні да кога пытанні. Усё роўна ў адказ будзе цішыня.

## 2.

Выступаючы па тэлевізары, акцёр Сяргей Юрскі (той самы непаўторны Бэндэр з "Залатога цяляці") расказаў, як ён аднойчы перажыў сапраўдны шок.

Канцэрт зорак эстрады. Тысячная аўдыторыя. Многія з дзецьмі на каленях.

"...І калі я ўбачыў, як уся зала, ад старога да малога, у тысячу галасоў следам за спеваком зацягвае:

*Ты отказала мне два раза,*
*Не хочу, сказала ты.*
*Вот такая вот зараза*
*девушка моей мечты!*

...Калі я ўбачыў бабульку, якая разам з унучкаю ў такт пляскаюць у ладкі, – у мяне заварушыліся апошнія валасы на галаве. Гэта была вакханалія пошасці, гіпнатычны сеанс нейкага агульнага адурнення ("всеобщего помешательства"), і горка і брыдка зрабілася на душы, і сорамна за радзіму Пушкіна і Чэхава, і жахліва перад той безданню, у якую мая краіна коціцца..."

Дзівак-чалавек! Так абвострана ўспрымаць, дык ніякіх нерваў не хопіць. Хай бярэ прыклад з беларусаў. У нас даўно ўжо ні ў кога не варушацца валасы, нікому не горка, не брыдка і не сорамна, калі, дапусцім, на канале "Лад" дзеткі па просьбе вядучага напяваюць свае любімыя песенькі; трэба меркаваць, яны ім заместа калыханкі. Вось трохгадовае хлапчанё бяззубай скарагаворкаю адбарабаньвае згаданую ўжо намі "Голубую луну". Вось дзяўчынка яго ўзросту, глытаючы словы, ляпеча:

Я буду места, места, места неё
Твая невеста, цесна, цесная-ё!

(У сэнсе, "честна, честная-ё".) Побач, канечне, бацька, маці, слухаюць сваё таленавітае не па гадах дзіцятка з замілаваннем, з пяшчотаю. Ганарацца за яго, і за сябе таксама, за тое, што вось з маленства прывучаюць свайго нашчадка да культуры.

## 3.

*Якая зорная*
*Цішыня!*
*Якая зорная*
*Вышыня!*
*Якая зорная*
*Глыбіня!..*

**(А.. Пісьмянкоў, "Вяртанне ў Браслаў")**

Цёплая вераснёвая ноч.

Мы з Алесем Пісьмянковым ляжым каля вогнішча на беразе возера Струста. Зорнае неба над намі, плёск хваляў за намі, утульнае полымя перад намі...

Толькі што мы папарыліся ў лазні, наварылі юшкі, насмажылі баравікоў на патэльні, сала на дубчыках, напяклі ў прысаку бульбы. Цяпер, наетыя і ўлагоджаныя, п'ем патроху гарэлку, курым, прыпальваючы цыгарэты ад вугельчыкаў, і размаўляем.

Ідылія! Усё было б зусім цудоўна, каб не тэма размовы.

Гэта варта было перціся сюды, на край Браслаўшчыны, у глухія запаветныя мясціны, каб прывезці з сабою ўсё тое, ад чаго марылі пазбавіцца ў Мінску, калі выбіраліся на прыроду! Але ж мы такія: у лесе – пра баб, з бабамі – пра лес...

Гутарым мы нават не пра любімую да абрыдласці літаратуру (што было б хоць трохі лагічна), а пра... палітыку. Тэма: дык ёсць усё ж дыскрымінацыя беларускай мовы, ці няма?

**Алесь.** Калі і ёсць, дык няўжо большая, чым у любой іншай рэспубліцы былога Саюза? Аднак толькі ў Беларусі мы маем тое, што маем. У цябе ж у аповесці "Вёска" ёсць выдатны маналог – "ды ці любяць яны самі сябе, гэтую мову сваю?"! Правільна сказана! Трэба любіць і хацець, і тады ўсе дыс к р ы м і н а ц ы і бяссільныя. Вось мы з табою любім прыроду, рыбалку і Браслаўшчыну, захацелі гэтага – калі ласка! Ляжым і выпіваем. Хоць тут і запаветная зона, забаронена збіраць грыбы, лавіць рыбу і паліць вогнішча... Нас гэта спыніла? Тое самае і з моваю. Захацелі б вельмі моцна заўтра ўсе рабочыя трактарнага завода загаварыць па-беларуску – і так і было б! І ўсе размовы пра "дыскрымінацыю" адпалі б за непатрэбнасцю!

**Я.** Добра. Вось табе два прыклады. З мінімальнымі каментарыямі. Высновы рабі сам. Першы – наша мазырская раённая газета. Колькі яна існуе, столькі выходзіла па-беларуску. Цяпер, пры двухмоўі, вядома, скрозь па-руску. Акрамя адной рубрыкі – ведаеш, такія спачуванні ў рамках на апошняй старонцы? "Калектыў смуткуе з прычыны...", "выказваем спачуванні ў сувязі з трагічнай смерцю..." Адно гэта па-беларуску! З чым у чалавека пачне атаясамлівацца беларуская мова?

**Алесь** (*чамусьці ўзрадавана*). З горам, з няшчасцем!

**Я.** Дык тут хоць аддадзім належнае творчаму падыходу... А вось другі прыклад. Як ты растлумачыш мне дакументальны фільм "Дарога ў нікуды"? У прыватнасці эпізод, дзе дыктар за кадрам абвяшчае: "В аккупированном Минске находилось отребъе, носящее псевдонациональные костюмы и умудряющееся даже издавать книжонки, написанные на местном наречии"?

**Алесь.** Не можа быць!



**Я.** Растлумач мне ўсяго дзве рэчы: чаму касцюмы не проста нацыянальныя, а псеўданацыянальныя? Па якіх прыкметах гэта вызначаецца? І што за "местное наречие»? Мінскае? Магілёўскае? Ці ўсё ж гэта тое самае "наречие", на якім у час вайны пісалі Купала ў Маскве, Колас ў Ташкенце, Мележ – у франтавым шпіталі, Шамякін – у акопах пад Мурманскам? Тое самае "наречие", вершы на якім напісаныя ляжалі ў кішэнях прастрэленых гімнасцёрак Міколы Сурначова, забітага пры штурме Берліна, Змітрака Астапенкі – у Карпатах, Алеся Жаўрука – пры абароне Сталінграда? Сотняў і тысячаў іншых, што склалі галовы і за гэтае "наречие" таксама, каб featureрознае брыдоцце па ім не тапталася?

**Алесь.** Не маглі так сказаць па тэлевізары! Ты штосьці перабольшваеш.

**Я.** Пайшлі спаць, Алесь. Заўтра падымацца рана, чарвякоў капаць...

Недзе праз год тэлефануе Пісьмянкоў:

– Ну, паглядзеў я "Дарогу ў нікуды"... Ведаеш, ты казаў праўду там, каля вогнішча.

Якое вогнішча, які фільм, дарагі Алесь Уладзіміравіч! Столькі вады з таго часу сплыло, так даўно было тое, што, здаецца, стала няпраўдаю...

## 4.

Колісь жыў у нашай вёсцы такі Пятро Лапіцкі, па мянушцы Лапідон (мазырскія мянушкі ўвогуле асобная тэма; у нас у кожнага іх па тры, і ўсе адна перад аднной брыдчэйшыя).

Быў ён каравачнік, г.зн. ездзіў на падводзе па вакольных вёсках і збіраў featureрознае рыззё, анучы – па нашаму караўкі, у абмен на пластылін, гліняныя свістулькі, іголкі-ніткі, насоўкі, хусткі... Чамусьці гэты ў прынцыпе важны занятак лічыўся да страшнага непрыстойным. Калі якая матка хацела прыпалохаць свайго няздатнага да навукі ёлупня, дык казала: "Гуляй, гуляй! Будзеш караўкі збіраць, як Пятро Лапідон".

І з чым мы, малеча, маглі ўвязаць пачуты пазней у школе прыметнік "лапідарны"? Акрамя як з Пятром Лапідонам? Для мяне асабіста да самага апошняга часу гэтае слова было сінонімам расійскаму "топорный", цяпляп зроблены, нязграбны...

І вось аднойчы ў крытыцы на сваю аповесць "Нічые" бачу: "Гэтым лапідарным сказам Федарэнка хацеў сказаць..."

Я дзесяць разоў перачытаў сказ, вось гэты:

"Адбываўся нейкі гістарычны нонсенс".

У чым тут лапідарнасць? Дзе нязграбнасць? Нарэшце здагадаўся праверыць на іншых:

– Вадзім, – спытаў у паэта Вадзіма Спрынчана, – як ты разумееш слова лапідарны? Толькі не па слоўніку. Я ведаю – гэта кароткі, ёмісты сказ і т.п. Уяві, што ты не ведаеш слоўнікавага значэння. Чыста суб'ектыўна – якія эмоцыі гэтае слова выклікае?

–Толькі станоўчыя.

– Ты ўпэўнены?

– Абсалютна.

"Вось так, – падумалася мне. – А ты ўжо хутчэй наязджаеш на бязвіннага крытыка – замест таго, каб выпраўляць уласнае невуцтва..."

## 5.

Памёр Алесь Пісьмянкоў. І ў некралогу на яго раптам кінулася ў вочы, разанула па-жывому:

"...Мы страцілі паэта з ёмістым мысленнем, які пісаў лапідарна..."

І ўсё ва мне ўзбунтавалася – не, не і не! Хай лепш я застануся невукам, хай буду больш давяраць дзіцячай асацыятыўнасці і сваім эмоцыям, чым цвярозаму сэнсу, – але гэтае слова я ніколі не палюблю.

І яно не павінна стаяць ні ў некралогу на майго сябра, ні ў будучым некралогу на мяне.

## 6.

Памінаючы Пісьмянкова, мы з яго цёзкам, Алесем Наварычам, дагаварыліся да:

– Калі памірае нехта з блізкіх, дарагіх людзей, дык нам, хто яшчэ ТУТ, павінна жыцца лягчэй, бо яны ТАМ за нас каго трэба папросяць.

Ды ці то забыўся пра нас Алесь, ці то не надарылася магчымасці закінуць за нас слоўка, але вось толькі ўсім нам, яго блізкім, не лягчэй, а чамусьці ўсё цяжэй...

***2004г., Мінск***

# “Con anima” — значыць “з душой”

## Новы музычны фэст

Лета — пара гарачая шмат для каго не толькі ў простым, але і ў пераносным сэнсе. Нехта пакідае дзіцячы сад і становіцца школьнікам, нехта развітваецца са школай і праходзіць нялёгкі шлях абітурыента, каб стаць студэнтам, нехта атрымлівае прафесійныя веды на высокім узроўні ў ВНУ і робіць першыя крокі ў самастойным жыцці, а нехта, завяршыўшы працоўны год, плённа і з цікавасцю праводзіць сезон адпачынкаў. У свеце музычнага мастацтва лета — своеасаблівае падвядзенне творчых вынікаў. Завяршаецца чарговы сезон для прафесійных артыстаў, выязджаюць з канцэртамі аматарскія калектывы. Насычана музычнае жыццё краіны ў летні сезон і фестывалямі...



Сярод разнастайных музычных фэстаў асабліва вылучаецца Першы нацыянальны фестываль інструментальнай духоўнай і сучаснай музыкі, які быў арганізаваны мінскім касцёлам св. Сымона і св. Алены і Беларускай Асацыяцыяй духавых аркестраў і ансамбляў (БАДАА/BASBE).

**— Музыка ў жыцці чалавека, асабліва веруючага, заўжды адыгрывала вельмі значную ролю, — адзначыў адзін з аўтараў гэтага насычанага творчага праекта пробашч касцёла св. Сымона і св.Алены, ксёндз-магістр, кандыдат гістарычных навук, старшыня журы фестывалю Уладзіслаў Завальнюк. — Музыка ў касцёле ўзмацняе шчырыя рэлігійныя пачуцці нашых парафіянаў, падчас набажэнства ў адзіным сакральным суперажыванні злучае аднадумцаў, умацоўваючы веру, ачышчае душу... Невыпадкова ў нашага фестывалю і адпаведная назва: “Con anima”, што ў перакладзе азначае “з душой”. Ён быў прысвечаны Святой Тройцы. На працягу трох нядзельных святочных дзён выступленні шматлікіх інструментальных калектываў паміж урачыстымі набажэнствамі садзейнічалі стварэнню атмасферы высокай духоўнасці і творчага спаборніцтва. Выступленні лепшых калектываў былі адзначаны спецыяльнымі дыпламамі нашага фестывалю.**

Для многіх творчых калектываў, якія ўпершыню гралі ў касцёле, уласнае выступленне сталася сапраўдным мастацкім адкрыццём. Па-першае, само выкананне музыкі перад алтаром абавязвала да максімальнай творчай самаадданасці. Па-другое, музыканты адчулі незвычайнае творчае задавальненне і асалоду ад уласнага выканання. Сакрэт у спецыфічных акустычных эфектах касцёла, што дазваляла, у адрозненне ад большасці канцэртных залаў, дасягаць імкліва-захапляльных дынамічных градацый, аб’ёму рэверберацыі гучання і г.д.

Практыка выступлення інструменталістаў у касцёлах вядзе сваю гісторыю яшчэ з XVI стагоддзя. У той час на Беларусі пачалі актыўна ствараццa пры езуіцкіх кляштарах, касцёлах інструментальныя капэлы, аркестры. Іх гучанне гарманічна спалучалася з велічнымі акордамі і пранікнёнымі мелодыямі аргана, што надавала прыцягальнасць каталіцкім рэлігійным абрадам і святам. І на фестывалі “Con anima” парафіяне касцёла св.Сымона і св.Алены, шанавальнікі музычнага мастацтва нібы падарожнічалі па старонках гісторыі. Гожай выканальніцкай манерай, індывідуальным каларытам радавалі ўсіх канцэртныя праграмы Ансамбля духавых інструментаў духавога аркестра Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС РБ, Квінтэта духавых інструментаў (г.Мінск), асаблівую цікавасць выклікаў Ансамбль гістарычных флейт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Дзякуючы энтузіязму яго кіраўніка Галіны Мацюховай, яе выхаванцам, шматлікія слухачы іх канцэртнай праграмы атрымалі магчымасць пачуць і ўбачыць старажытныя блок-флейты, разнастайныя флейты-траверса.

Высокі ўзровень ансамблевага выканальніцтва паказалі калектывы Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. Велічна і кампактна гучаў Ансамбль трубачоў “Festivo”. Яго кіраўнік Аляксандр Карацееў здолеў падабраць вялікі тэматычны рэпертуар і прадэманстраваць размаітыя спосабы інструментоўкі для такога ансамблевага складу. Дзівосныя і незвычайныя тэмбравыя камбінацыі ўразілі ў праграме Ансамбля беларускіх народных інструментаў “Гуды” пад кіраўніцтвам Уладзіміра Грома. Гэты калектыў здзівіў усіх не толькі багатымі гістарычнымі касцюмамі, але і багаццем нацыянальнага інструментарыя. Пасля выступлення “Гудаў” найбольш цікаўныя слухачы нават суправаджалі ўдзельнікаў ансамбля за алтар, каб разглядзіць беларускую дуду, жалейку, акарыну, розныя дудкі ды бубны.

Асаблівасцю фестывалю “Con anima” было тое, што акрамя розных інструментальных складаў былі запрошаны выступіць і аркестравыя калектывы: духавы аркестр Мінскага дзяржаўнага Палаца дзяцей і моладзі, Канцэртны аркестр “Няміга” дзяржаўнай установы “Мінскканцэрт” (госць фестывалю). Аркестры гралі і перад касцёлам, і ў самім храме. Незабыўным было выступленне аркестра “Няміга” на закрыцці фэсту. Музыканты размясціліся перад алтаром, дзе была выстаўлена сёмая фотакопія Святой Плашчаніцы Турынскай. Гэта поўнамаштабная, у поўнай колеравай гаме фотакопія для Беларусі была асвечана ў храме Св. Ларэнца Марціры. На фоне копіі святой рэліквіі асабліва востра ўспрымалася выкананне аркестрам Канцэрта № 1 для фартэпіяна з духавым аркестрам беларускага кампазітара Ганны Казловай, твораў І.С.Баха, Г.Хансэна, П.Стансі, К.Пендэрэцкага...

Прыкметнай з’явай у шэрагу канцэртных выступленняў быў удзел дзіцячых інструментальных калектываў. Гэта і Ансамбль скрыпачоў, Ансабль цымбалістаў, Ансамбль трубачоў “Forte” Мінскай СШ № 4 з музычным ухілам. І юныя трубачы ансамбля “Maestoso” ДМШ № 19 сталіцы. Далучэнне дзяцей да такіх імпрэз варта ўсялякага заахвочвання. Юныя музыкі не толькі былі ўшанаваны дыпламамі лаўрэатаў у сваіх намінацыях і ўзроставых групах, што сведчыла пра сур’ёзную працу іх выкладчыкаў і кіраўнікоў калектываў. Але галоўнае — праз рэпертуар, духоўную музыку, якую дзеці выконвалі непасрэдна перад алтаром, яны пачыналі задумвацца пра сур’ёзныя рэчы, пра тыя духоўныя задачы, якія стаяць перад кожным чалавекам у яго станаўленні як асобы.

**— Я думаю, што тыя задачы, якія мы аргкамітэтам вызначылі для дасягнення сур’ёзнага ўзроўню нашага фестывалю, мы вырашылі, — кажа другі аўтар новага творчага праекта , яго мастацкі кіраўнік, прэзідэнт БАДАА/BASBE, член міжнароднай арганізацыі мастацтвазнаўцаў IGEB, Аляксандр Карацееў. — У нас ужо быў вопыт правядзення каляднага фестывалю “Te Deum Laudamus” у касцёле св.Сымона і св.Алены. Спадзяюся, што новы летні фестываль духоўнай інструментальнай і сучаснай музыкі не толькі адродзіць, але і будзе паспяхова развіваць традыцыі нацыянальнага інструментальнага выканальніцкага мастацтва Беларусі.**

Канцэрты фестывалю “Con anima” ўжо зрабіліся старонкай гісторыі айчыннага музычнага мастацтва. Летапіс адраджэння нашых традыцый працягваецца...

**Максім НАСКОЎ,**
**магістр мастацтваў**
**Беларускага дзяржаўнага**
**універсітэта культуры**

***НА ЗДЫМКУ: ансамбль “Festivo”.***

# Зазірнём у кінашоп?

## Фільмы, прапанаваныя пракатам

### “Цяжкасці перакладу”



Рэжысёр — Сафія Копала. У ролях: Скарлет Ёхансан, Біл Мюрэй, Джавані Рыбізі.

Вольная, як джазавая кампазіцыя, і амаль бессюжэтная гісторыя. Выпускніца універсітэта Шарлота (С.Ёхансан) сядзіць у гатэлі, разглядаючы хмарачосы Токіо. Яна прыехала сюды з мужам-фатографам (Дж.Рыбізі), які заняты па працы і пакідае жонку адну. Шарлота знаёміцца ў бары з суайчыннікам — вядомым акцёрам Бобам Харысам (Б.Мюрэй), слава якога ў Амерыцы даўно аціхла, але ў Японіі яшчэ памятаюць яго. Боб прыехаў таксама па працы: зняцца ў рэкламе віскі.

Рэжысёр сталага веку зрабіў бы з гэтага любоўную гісторыю пра чужакоў у незнаёмым горадзе або драму пра ментара і вучаніцу. Аднак С.Копала са сваім другім фільмам зрабіла гэтак жа, як і з вядомай стужкай “Цнатліўкі-самазабойцы”: напляваць на сюжэт, галоўнае — настрой. Настрой MTV для інтэлектуалаў.

Фільм падобны да бясконцага кліпа, што не перашкодзіла яго стваральніцы стаць лепшым у гэтым годзе рэжысёрам сярод намінантаў на прэмію “Оскар”.

### “Таямнічая рака”



Ролі ў гэтай стужцы — рэжысёрскай рабоце Клінта Іствуда — сыгралі Шон Пэн, Цім Робінс, Кевін Бэйкан, Лорэнс Фішбарн, Марша Гэй Хардэн, Лора Ліні.

Дзеянне фільма, знятага паводле бестселера Дэніса Ліхэйна, разгортваецца на паўднёвай ускраіне Бостана (тамсама праходзілі і здымкі). Гэта расповед пра трох сяброў дзяцінства, якіх лёс зводзіць разам праз 25 гадоў пры трагічных абставінах. У Джымі (Ш.Пэн), злачынцы, які адседзеў свой тэрмін, забіваюць 19-гадовую дачку, і ён прагне адпомсціць любым коштам. Падазраецца ў забойстве Дэйв (Ц.Робінс), які хлопчыкам на вачах у сяброў быў выкрадзены і згвалтаваны; успаміны пра гэтую бяду мучаюць усіх траіх. Шон (К.Бэйкан) стаў паліцэйскім, і менавіта ён вядзе афіцыйнае расследаванне забойства.

Фільм вылучаўся на прэмію “Оскар” у некалькіх намінацыях, Ш.Пэн атрымаў гэтую ўзнагароду Амерыканскай акадэміі кінамастацтва за лепшую мужчынскую ролю.

### “Бедакі”

Рэжысёр фільма — Франсіс Вебер, у ролях — Жан Рэно, Жэрар Дэпардзье, Андрэ Дэюсалье, Рышар Беры.

Гэта традыцыйна смешная французская камедыя. Доля “бедакоў” дасталася тут Ж.Рэно і Ж.Дэпардзье. Дуэт ніколькі не горшы за П.Рышара і Ж.Дэпардзье са стужкі з гэткай жа назвай. Толькі цяпер “слабое звяно” ў гэтай кампаніі — сам Дэпардзье. У яго ўвогуле апошнім часам удала атрымліваюцца ролі, што набліжаюцца да эстэтыкі дзіцячага ранішніка. Тут акцёру дасталася роля чалавека вельмі недалёкага і вельмі дужага. Таму ў турме (а дзеянне закручваецца менавіта ў турме, дзе герой Рэно — бандыт і забойца, а герой Дэпардзье — надзіва няўдачлівы злодзей) з ім таварышаваць ніхто не хоча. А насамрэч жа ён наіўны і добры. І так ужо складваецца сітуацыя, што адзіным чалавекам, да якога прыкіпае яго не спешчанае ўвагай сэрца, аказваецца менавіта герой Рэно.

Больш пра гэты фільм нібыта і распавядаць няма чаго. Ён традыцыйна смешны ў належных месцах, а акцёры традыцыйна захапляльныя ў сваёй традыцыйнай жа клаунадзе.

**Мікола АДАМ**



# Меў талент — стварыць свята

Першы пасляваенны год. У Мінск пачалі вяртацца пісьменнікі, кампазітары, музыканты — яны мусілі наладзіць творчае жыццё, адрадзіць беларускае мастацтва. Прыпамінаюцца першыя канцэрты сімфанічнага аркестра Белдзяржфілармоніі, на якіх слухачы мелі магчымасць пазнаёміцца з класічнай і савецкай музыкай, з творамі беларускіх кампазітараў. Вялікую працу ў тыя гады зрабілі дырыжоры Марк Шнейдэрман і Таццяна Каламійцава.

У 1956 годзе сімфанічны аркестр філармоніі ўзначаліў малады дырыжор, выпускнік Маскоўскай кансерваторыі Віктар Дуброўскі. На пачатку 50-х ён быў накіраваны ў КНР для працы з маладзёжным аркестрам, які пасля ўвайшоў у склад сімфанічнага аркестра Кітайскай Народнай Рэспублікі. І вось — Беларусь, Мінск. Першае знаёмства: высокі, зграбны, з прыгожай шавялюрай, ён стаў за пульт і ўбачыў перад сабою вялікі прафесійны калектыў. Пазней Віктар Паўлавіч успамінаў: "Я паглядзеў уважліва на музыкантаў, і захацелася патрапіць у іхнія думкі, клопаты, цяжкасці часу. Многія з іх прайшлі вайну, вярнуліся да мірнага жыцця, не ўсе добраўладкаваныя. Ці зразумеюць яны мяне?" На пультах ляжалі ноты 4-й сімфоніі Чайкоўскага. Дырыжор выпрастаўся і, энергічна ўзмахнуўшы рукою, звярнуўся да групы духавых інструментаў, патрабуючы выканаць пранізлівы, поўны драматызму, лейтматыў-заклік. Паступова гукі труб змоўклі. Рух дырыжоравых рук змяніўся. Звяртаючыся да струннай групы, ён прасіў пайсці ў іншы свет музыкі, напоўнены пяшчотаю і лірызмам... Музыканты зразумелі дырыжора: ціха і цёпла зайграў аркестр. Так пачалася першая рэпетыцыя.

Падчас перапынку ён размаўляў з канцэртмайстрамі груп і салістамі, удакладняючы штрыхі і гучанне груп аркестра... Пасля працы ўсе выходзілі задаволеныя, гаварылі пра новага дырыжора. Праз некалькі дзён было ўжо канчаткова зразумела: маэстра спадабаўся калектыву.

Віктар Дуброўскі займальна і палка перадаваў свой вопыт і веды музыкантам, сцвярджаючы думку пра высокае ідэйнае і этычнае прызначэнне працы дырыжора, апантанага вечным імкненнем да ідэальнай мастацкасці, глыбокай змястоўнасці сваёй творчасці. Праца галоўнага дырыжора вымагае не толькі таленту, прыроднай схільнасці, але й смеласці, упэўненасці ў працэсе інтэнсіўнай працы, якая дае крылы для творчага палёту. Дуброўскі заўсёды ўважліва, ашчадна, з вялікай любоўю і творча ставіўся да свайго мастацтва, дамагаўся прыгожага гучання аркестра, чысціні інтанацыі, пашырэння канцэртнага рэпертуару. Магутнымі і ўпэўненымі штрыхамі выяўляў ён філасофскую сутнасць, драматызм і лірычныя эпізоды ў сімфоніях Чайкоўскага, Бетховена, Моцарта, Гайдна, лагічна размяркоўваючы дынамічныя адценні музычнай тканіны, найтанчэйшую афарбоўку гучання кожнага інструмента.

Да гэтага часу ў памяці сталых меламанаў выкананне "Балеро" М. Равеля. Дырыжор і аркестр здолелі ўвасобіць танец нязменны, аднастайны па мелодыі і гармоніі, падкрэсліваючы рытм малога барабана, даючы магчымасць асобным інструментам свабодна "самавыяўляцца" ў сольных партыях, але кожным разам у новай музычнай трактоўцы. У сімфанічных паэмах Р. Штрауса "Дон Жуан", "Ціль Уленшпігель" В. Дуброўскі імкнуўся выявіць характар музычных вобразаў, увасобленых яскравымі гукавымі фарбамі, гарманічнымі і аркестравымі новаўвядзеннямі.

Мноства канцэртаў адбылося з усясветна вядомымі музыкантамі: С. Рыхтэрам, Д. Ойстрахам, Э. Гільельсам, І. Стэрнам, якія з вялікім задавальненнем выступалі з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага. Ажыўлена і цікава праходзілі аўтарскія праграмы кампазітараў Ц. Хрэннікава, Я. Цікоцкага, Я. Глебава. Кожны канцэрт ператвараўся ў свята музыкі і доўга заставаўся ў памяці слухачоў.

Вялікае месца ў творчай дзейнасці дырыжора было адведзена творам беларускіх кампазітараў. Упершыню ў тыя гады гучалі сімфоніі Я. Цікоцкага, М. Аладава, Р. Пукста, А. Багатырова, Я. Глебава, Г. Вагнера. Маэстра ставіўся да гэтых твораў асабліва ўважліва. Ён жа зрабіў вялікую працу па запісе твораў беларускіх кампазітараў у "залаты фонд" радыё, дзякуючы чаму яны гучалі па ўсім Савецкім Саюзе.

У летнія месяцы, калі канцэртны сезон закрываўся, В. Дуброўскі і сімфанічны аркестр выязджалі на гастролі па Беларусі.

Нейкі час В. Дуброўскі ўзначальваў Дзяржаўны акадэмічны аркестр рускіх народных інструментаў імя Осіпава. З гэтым калектывам дырыжор выступаў у многіх гарадах Савецкага Саюза, а таксама ў ЗША, Аўстраліі, Францыі і Германіі. Яму таксама належыць заслуга стварэння ў Смаленску аркестра народных інструментаў, які паспяхова выступаў у Маскве і Ленінградзе. Аркестр быў частым госцем у Мінску і карыстаўся вялікай прыхільнасцю публікі.

Апошнія гады творчай дзейнасці Віктара Дуброўскага... Ён зноў у Мінску, за пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. І канцэрты яго збіралі аншлагі, былі незабыўнымі святамі музыкі.

Народны артыст Расійскай Федэрацыі і заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Паўлавіч Дуброўскі памёр у Смаленску 17 кастрычніка 1994 года.

**Рыгор ГЛАЙХЕНГАЎЗ,**
**ветэран Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі**

**Фота А. Маскаленкі**

***Рыста ВАСІЛЕЎСКІ, 1943 г.н., — македонскі і сербскі паэт, празаік, эсэіст, перакладчык,выдавец, арганізатар літаратурных мерапрыемстваў. Выдаў кнігі «Шэпты» (1968), «Часы» (1970), «Хворы дом» (1984), «Пахвалы пеклу» (1993), «Летапіс тысяча дзевяцьсот апошняга» (2000), "Храм, усё ж такі храм" (2003).***

Апошні з названых зборнікаў паэзіі варты асаблівай увагі. Не толькі з-за тэмы, якая адлюстравана загалоўкам. Гэта, можна сказаць, свайго роду паэтычная манаграфія — даследаванне ідэі храма ў розных аспектах. Не толькі паводле задумы, але і як вынік, паводле змястоўнасці, гэта кніга, здольная выклікаць на быційна важную суразмову, абуджаючы глыбокія суразвагі і суадчуванні. Прычым, незалежна ад інтэлектуальнага, душэўнага і духоўнага вопыту суразмоўніка-чытача. Зборнік "Храм, усё ж такі храм", нягледзячы на яго манаграфічнасць-аднатэмнасць, надзвычай шматпланавы. Не маючы магчымасці разглядаць усё падрабязна, звярну ўвагу на адно, бадай, самае істотнае: як асэнсоўваецца шлях да Храма і праабражэнне на гэтым шляху тых людзей, што сталі "знешнімі", г.зн. нашых сучаснікаў, адно з пакаленняў якіх прадстаўляе сам аўтар. І ён пераконвае: чалавек — нішто без Храма як свяцілішча і святыні; калі ж ідзе да яго, праабражаецца, набываючы і ў душы сваёй Храм.

Дарэчы, зыходная форма імя паэта, па-македонску і па-сербску — Христо...

Цікава — а можа і праведынцыйна, — што адразу пасля выхаду гэтай кнігі Рыста Васілеўскі апынуўся ў Беларусі, як удзельнік свята паэзіі ў рамках фестывалю "Славянскі базар". Прыехаўшы ў Мінск раніцою 12 ліпеня, ён з вакзала трапіў... у наш Петра-Паўлаўскі сабор, на ўрачыстае архірэйскае богаслужэнне з нагоды прастольнага свята. Калі ж вяртаўся з Віцебска, не змог абмінуць Полацк. Паколькі ўвесь той час мы былі разам, дазволю сабе адзначыць, што калега неаднойчы выказваў сардэчную ўдзячнасць усім беларусам, якія гасцінна прымалі яго, і дзяліўся многімі прыемнымі ўражаннямі.

А за нядоўгім часам ён прыслаў экземпляры другога выдання зборніка "Храм, усё ж такі храм", у якім сярод новых вершаў былі ўжо і напісаныя пад уражаннямі ад знаёмства з нашай краінай, яе святымі. Больш каментарыяў, думаю, не трэба.

А разам з вершамі, напісанымі ў Беларусі, прапаноўваем таксама тыя, якія Рыста чытаў у Віцебску, перад помнікам Уладзіміру Караткевічу.

**Перакладчык Іван ЧАРОТА**

**РЫСТА ВАСІЛЕЎСКІ**

### ДВА СТАНЫ ХРАМА (САБОР СВ. ПЯТРА І ПАЎЛА, МІНСК – БЕЛАРУСЬ)

***Айцу Георгію, настаяцелю Храма***

*Адно, пра што даведаўся:*
*Храм адабраны*
*і зганьбаваны,*
*запоўнены будзённай*
*мінуўшчынай*
*і яе мінучасцю –*
*былі тут паперы*
*з абвінавачаннямі бязвінных*
*і абгрунтаваннямі ўзнагарод*
*незаслужаных,*
*былі пячаткі на дакументах*
*маёмасных*
*і штампы на рашэннях*
*судовых,*
*былі кнігі, карыстаныя*
*мышамі ды павукамі,*
*былі стэлажы, што хавалі*
*ўсе знакі веры*
*і выявы падзей свяшчэннай*
*гісторыі,*
*былі хаваныя, жорстка*
*затынкаваныя*
*фрэскі — без права*
*на існаванне,*
*былі дзверы зачынены*
*для тых, хто раней*
*успрымаў іх*
*як неад'емную частку*
*свайго жыцця...*

*Ніхто не можа сюды зайсці,*
*калі не рыхтуецца*
*да распяцця,*
*Ніхто не можа*
*адсюль выйсці,*
*Калі не прыняў на сябе*
*крыж.*

*А другое, што сам убачыў:*
*жыццё вернута сюды,*
*як у найважнейшае месца,*
*дзе быційнасць здзяйсняецца.*
*І храм, і прытвор*
*вернікаў поўныя,*
*Хрэсны ход неабдымнай*
*плынню*
*запоўніў двор і вуліцу,*
*нібы рака ў паводку, якая*
*ўсё наваколле залівае*
*і з сабою забірае нясе*

*Узгалосы свяшчэннікаў*
*і стогалоссе хору*
*вызначаюць рытм сэрца,*
*якое гатова ўсё пакінуць,*
*каб толькі застацца*
*на шляху Божым.*

*Гэта ж такая ўрачыстасць:*
*яднаюцца месца*
*паходжання*
*і месца ўзыходжання*
*для мяне – быццам*
*бы не адольваў*
*дальняй дарогі –*
*зноў я блізка да Бога,*
*нібыта адвечна тут.*

### ДЗЕНЬ У ПРАПАДОБНАЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ (СВЯТА-ЕЎФРАСІННЕЎСКІ ХРАМ І МАНАСТЫР, ПОЛАЦК — БЕЛАРУСЬ)

*Два цяжкія ланцугі –*
*на рукі і ногі –*
*ляжаць на асобным адры;*
*да іх вернікі прыкладаюцца,*
*як і да мошчаў Святой,*
*і ацаляюцца многія.*

*А гэта вярыгі*
*тыя, што Святая насіла –*
*каб плоць утаймоўваць,*
*цяжар душы змяншаць*
*і дух захоўваць*
*вольным ад бруду*
*зямнога.*

*Яе дух,*
*высока ўзнесены,*
*Яе мошчы,*
*поўныя благадаці,*
*спрыяюць з аблуднага*
*да вечнага вяртацца.*

*Ёю здабытае і памножанае*
*цяпер*
*перайшло да насельніц*
*абіцелі,*
*кон якіх – ахоўваць*
*Храм Яе,*
*Сябе ў чысціні і Святло*
*ў Храме.*

*Лікі святых з ікон і фрэсак*
*на сценах старажытных*
*абноўленых*
*сцвярджаюць маладосць*
*вечную,*
*уражваючы спакоем.*

*Каўчэжцы з часціцамі*
*мошчаў святых*
*розных часоў і з розных*
*зямлі куткоў*
*сведчаць, што смерць*
*і жыццё нароўні;*
*толькі ў жыцці мы на гэта*
*мала зважаем,*
*бо мала веры ў сябе*
*прымаем,*
*а яшчэ меней даем*
*веры іншым.*

*Несучы дотык рукі*
*Еўфрасінні*
*на азораным ілбе сваім,*
*я лячу ў старажытны*
*Охрыд свой,*
*каб благадаць гэтую*
*спалучыць*
*з той, што ў Сафійскім*
*храме Охрыдскім.*

*Каб Мастом быць.*

**14 ліпеня 2003 г.**

### НЕ ЕДУ Ў ДЖАЛАЛАБАД

*Не еду ў Нью-Йорк.*
*Пацярпеў ён ад рукі,*
*якую песціў,*
*і цяпер залечвае раны,*
*попел і пыл вычышчае*
*ды ўціхамірвае плач тых,*
*хто бачыў сваю смерць,*
*не ведаючы яе прычыны;*
*над ім неба зачынена,*
*а ў ім шаленства пагроз*
*нішчыць і добрае ўсё,*
*як ліхое,*
*калі яно з асяроддзя чужога.*
*Не еду ў Парыж і Рым.*
*Адтуль ідуць весткі*
*пра хваробы,*
*якія небяспеку смяротную*
*ўяўляюць для сэрцаў і мазгоў*
*нават значна мацнейшага*
*люду.*
*Не еду ў Лондан.*
*Яго больш няма там,*
*дзе быў,*
*і ўсё гусцейшая мгла над ім.*
*Не еду ў Маскву.*
*Невядома, што напаткае*
*ў дарозе,*
*якая цемрадзь*
*заглынуць можа.*
*Не еду і ў Джалалабад.*
*Там гарыць усё скрозь,*
*а пры вогнішчах тых*
*грэцца можа хіба што зло.*
*Не еду, уласна, нікуды .*
*У сваёй краіне я ўсё гэта*
*бачыў.*

**13 кастрычніка 2001г.**




Р. Васілеўскі і І. Чарота перад помнікам У. Караткевіча ў Віцебску, 2003 г.

***Прыродная унікальнасць часткі Еўропы, населенай беларусамі — не проста высокія словы з вуснаў саміх беларусаў. Менавіта тут на плошчы ў 139.000 км² раскінулася самая вялікая нізіна кантынента — Палеская. Яе добрая палова прыпадае на тэрыторыю нашай рэспублікі.***

***Меліярацыя лёгкіх кантынента — палескіх балот — напрыканцы 60-х дасягнула настолькі пагрозлівых маштабаў, што выклікала непакой нават у экалагічна апатычных савецкіх чыноўнікаў. Тады, 35 год таму, рашэннем Саўміна БССР у цэнтры Палескага краю быў утвораны Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік.***

***Сёння створаны на яго базе Нацыянальны парк "Прыпяцкі" вырас у тры разы па плошчы, і ў дзесяткі разоў — па значэнні для краіны. Парк змяніў нават мэту: ад захавання звыклага стану палескай прыроды ён перайшоў да ўмацавання біялагічнай яе разнастайнасці. І калі раней у яго задачы ўваходзіла захаванне тыповых і унікальных прыродных комплексаў і ландшафтаў, выкананне навуковых даследаванняў і экалагічнае асветніцтва, то зараз, акрамя таго, на яго ўскладзена лесагаспадарчая і сельгасгаспадарчая дзейнасць, гандаль, а таксама экалагічны і паляўнічы турызм.***



# НеакульТУРаная прырода Палесся

## Апошняга тура тут знішчылі чатыры стагоддзі таму, але мясціны па-ранейшаму лічацца адмысловымі

У двух кіламетрах ад цэнтра гістарычнага Турава размясціўся звычайны адміністратыўны будынак. Але звычайны толькі на першы погляд. Прылягаючая тэрыторыя аздоблена драўлянымі фігуркамі жывёл, што выкананы на самым высокім мастацкім узроўні. А досыць вялікі па мерках беларускай правінцыі паркінг не такога ўжо і папулярнага ў краіне "экалагічнага" транспарту — веласіпедаў — адназначна кажа: тут знаходзіцца нейкая ўстанова кшталту дзяржгрынпіса.



### Гісторыя запаведніка

Знаёмства з нацыянальным паркам пачынаецца з музея. Старэйшы навуковы супрацоўнік Ніна Сяргейчык праводзіць для журналіста "ЛіМа" "індывідуальную" экскурсію...

— Старажытнагрэчаскі географ Герадот (480—425 гг. да н.э.) задумаў аднойчы экспедыцыю ў варагі, але дабраўся толькі да Палесся. Прасунуцца далей падарожніку не далі непраходныя пушчы, аднак дакладна вядома, як ён апісаў тутэйшыя мясціны: "даліна Прыпяці, то Герадотава мора".

У канцы І-га тысячагоддзя лог сярэдняй плыні Прыпяці засялілі дрыгавічы, якія стварылі напрыканцы Х ст. Тураўскае княства. З першай паловы XIV ст. Тураўшчына знаходзілася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, пазней — Рэчы Паспалітай.

Насельніцтва ў тыя часы было нешматлікім і хлебаробствам займалася мала, аддаючы перавагу лоўлі рыбы, паляванню, бортніцтву — любімаму занятку палешукоў. Дзякуючы наяўнасці прыродных рэсурсаў і нізкаму ўзроўню развіцця прылад вытворчасці чалавек не аказваў істотнага ўплыву на флору і фауну. Таму ў XVI ст. у мясцовых пушчах жылі ласі, алені, зубры, яшчэ сустракаўся старажытны бык — тур.

Аднак затым, з павелічэннем шчыльнасці насельніцтва, склалася тэндэнцыя да трансфармацыі лясоў пад ворыва, а звышвільготных земляў — пад сенакосы. Удасканаленне зброі прывяло да інтэнсіфікацыі палявання. Так у XVII ст. быў знішчаны тур, у XVIII — зубр.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) землі сучаснай тэрыторыі парка ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. У той час ваколіцы Турава яшчэ славіліся непраходнымі лясамі з мачтавымі соснамі і шматвекавымі дубамі.

У 1867-м імператар Аляксандр ІІ быў вымушаны прадаць на 90 гадоў (насамрэч, размова ішла толькі пра 30!) агромністыя прасторы Аляскі Злучаным Штатам за 11 млн. рублёў: вядома, што амерыканцы хутка пачалі выкачваць адтуль золата і інш. Аднак мала хто ведае, што за 70 год да таго "пагадненне" невялічкі Тураў з усімі маёнткамі і лясамі — маёмасць графаў Салагуба і Селябіна — адышлі да адной англійскай кампаніі. Агульная сума "кантракта" параўнальна з коштам найвялікшага амерыканскага штата — 856 тыс. рублёў. Пушчы пачалі інтэнсіўна высякацца, а першагатунковая драўніна сплаўлялася англічанамі па Прыпяці і Дняпры ў Херсон, а далей ішла ва ўсю Еўропу і шматлікія англійскія калоніі. Праз тры гады граф Салагуб зразумеў сваю памылку, і далажыў аб гэтай справе асабіста імператару Паўлу, па загадзе якога грошы былі вернуты англічанам з дзяржаўнай казны, а высечкі спыненыя. Тым не менш, большая частка пушчаў была страчана назаўсёды.

Ужо ў XIX ст. на Палессі былі знішчаны высакародны алень і дзікая кошка, а з другой яго паловы антрапагенны ўплыў яшчэ больш пашырыўся. З адменай прыгоннага права ў 1861-м у рэгіёне пачынаецца "росквіт" інтэнсіўнага землекарыстання з сістэмай высечкі лясоў і агнявой расчысткай высечак.

Падарожнікі сучасныя не ўбачаць Герадотава мора, і не патрапіцца ім нават балота: яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. тут разгарнуліся маштабныя работы па асушэнні Палескай нізіны. Кіраваў экспедыцыяй 1871—1898 гг. генерал-лейтэнант І.Жылінскі.

У выніку работы экспедыцыі каля 20.500 га "звышвільготных" угоддзяў сучаснай тэрыторыі парка былі асушаны меліярацыйнай сеткай агульнай працягласцю 300 км. Гэта дало пэўны эфект у плане павелічэння сенажацяў і пашы — аднак прыродны баланс тэрыторыі быў парушаны.

У рэшце рэшт, у перыяд з 1917 па 1922 гады, калі прыватныя і сялянскія лясы былі безгаспадарчымі і бязлітасна высякаліся, прырода Палесся канчаткова прыйшла ў заняпад. Неабходнасць аховы тэрыторыі наспела і пераспела: аднак прыйшлі дзесяцігоддзі, пакуль за справу ўзялася дзяржава.

### Стварэнне

Намеснік дырэктара па навуковай працы Анатоль Углянец распавядае:

— Ідэя запаведання балотнага ўчастка мясцовасці ў Палессі належыць польскаму акадэміку Шаферу. Яшчэ ў 20—30-я, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы, ён аблюбаваў месца пад балотны запаведнік у міжрэччы Гарыні і Сцвігі (сучасная тэрыторыя ваеннага палігона). Найважнейшы аргумент "за" стварэнне запаведніка — наяўнасць там буйнейшых на Палессі з захаваўшыхся балотных масіваў. Раней гэтыя угоддзі належалі князю Радзівілу, што ніякіх гаспадарчых мерапрыемстваў там не праводзіў, акрамя рэдкіх (раз у 1—2 гады) паляванняў. У астатні час прыватныя княжаскія ўгоддзі пільна вартаваліся.

У тыя ж 20—30-я вядомы польскі вучоны Кульчынскі правёў маштабныя даследаванні балотаў Палесся (зараз Валынская вобласць Украіны і Брэсцкая вобласць Беларусі), і затым за свае сродкі апублікаваў вынікі ў двухтомнай манаграфіі "Тарфянікі Палесся" ў 1939 і 1940 гг. у Кракаве і Лондане на польскай і англійскай мовах. У працы ахарактарызаваны ўсе балоты рэгіёна, у тым ліку і прапанаваныя Шаферам да запаведвання. Адным словам, на пачатку 1940-х навуковы падмурак для стварэння запаведніка ўжо існаваў. Алеперашкодзіла вайна.

У 1957-м дырэктар Цэнтральнага батанічнага сада АН БССР акадэмік Смольскі пазнаёміўся ў Польшчы з Кульчынскім, які падараваў яму сваю манаграфію і ідэю аб запаведніку. Па вяртанні яго ў Беларусь пачалася праца па абасаванні неабходнасці запаведніка ў міжрэччы Гарыні і Сцвігі ды падрыхтоўцы дакументаў. Аднак... у 1961-м, пры ўзгадненні дакументаў на стварэнне запаведніка было накладзена вета Ваеннай акругай. Пасля там быў створаны ваенны палігон краін Варшаўскай дамовы.

Толькі стараннямі выбітных вучоных ідэю запаведніка ўдалося рэалізаваць у 1969-м у абсалютна іншым месцы — у міжрэччы Сцвігі, Убарці і Прыпяці, што на Тураўшчыне, у самым цэнтры беларускага Палесся.

### Сучасная экскурсія

Малодшы навуковы супрацоўнік Алег Аляксееў трапіў у Прыпяцкі парк па размеркаванні пасля пяці гадоў інстытута ў Мазыры. Лічыць, што гэта ўдвая здарова: збіраць матэрыял для дысертацыі і атрымліваць за тое грошы. Вядома, працай сваёй

апантаны. У той час, як па неспазнаных турыстамі сцежках прабіраемся скрозь густы лес, Алег распавядае з захапленнем аб парку.

— Фактычна, статус нацыянальнага парка мы атрымалі ў сувязі з рэарганізацыяй у 1996-м. Тады да запаведніка дадалі паляўнічую гаспадарку, а тэрыторыі ў нас пабольшала ўтрая. Такім чынам, зараз працягласць парка з поўначы на поўдзень — 61 км, а з захаду на ўсход — 27 км. Усяго гэта каля 1,4 працэнта ад агульнай плошчы балот Палес-



ся, — але тыя адзіныя 1,4 працэнта, дзе можна пабачыць амаль некранутую прыроду гэтага краю.

Звонку парк нагадвае звычайны лясны масіў, якіх на Беларусі шмат. Аднак успрымання мяняецца кардынальна, як толькі трапляеш у царства прыроды. Першае ўражанне вашага карэспандэнта: столькі жыўнасці не бачыў нідзе і ніколі. Літаральна ў пяцідзесяці метрах ад заасфальтаванага гасцінца цябе аглушаюць спевы птушак, а пад нагамі раз-пораз штосьці жужжыць, скача і паўзе. Самых вялікіх жыхароў тутэйшых мясцін, аднак, не бачым. Гэта не значыць, што іх тут няма: адных зуброў парк налічвае 69 асобаў. Аднаўленне папуляцыі пачалося ў 1987-м, калі з Белавежскай пушчы завезлі 3 статкі.

— Звяры чуюць людскія крокі і, канечне, размову — таму і хаваюцца, — тлумачыць Алег. — З гэтага, калі ісці па лесе ўдваіх, заўважыць аленя ці зубра вельмі складана. Але тое, што яны тут ёсць, я зразумеў адразу, як сюды прыехаў. Блукаў па лесе, аглядаў тэрыторыю... Адзін блукаў. Падчас аднаго такога шпацыра спыніўся, як укапаны: перада мной у 10 метрах стаяць два здаравенных вепрука — і глядзяць на мяне з не меншым здзіўленнем. Маўляў, хто ты такі і чаго сюды прэсся?.. (смяецца). Спачатку падумаў, куды б павышай залезці... Потым вырашыў: вяртацца трэба туды, адкуль прыйшоў, не прыспешваючыся. Так і зрабіў — але ж і жаху нацярпеўся...

Зубр і кабан — не адзіныя віды звяроў, якія тут сустракаюцца. Усяго Прыпяцкі парк налічвае 52 віды млекакормячых, чатыры з якіх — барсук, зубр, арэшнікавая соня і рысь — занесены ў Чырвоную кнігу. Некалькі дзесяцігоддзяў таму трапіла ў парк з тэрыторыі Польшчы і андатра. У нас ёй настолькі спадабалася, што зараз сустракаецца паўсюдна. Такім жа чынам "завітала" да нас і амерыканская норка, але гэты госць быў для беларускае прыроды недарэчы. Аказалася, што асобы амерыканскай норкі больш моцныя, і яны лягчэй прыстасоўваюцца да сярэднееўрапейскіх умоваў. Таму за апошнія дваццаць год наша, еўрапейская норка, была амаль выцiснутая з натуральнага асяродку.

Палеская папуляцыя мядзведзяў была выбіта яшчэ ў часы Расійскай імперыі, каля ста гадоў таму. Аднак дагэтуль завітваюць сюды касалапыя ў пошуках ежы з тэрыторыі сучаснай Украіны.

Аб сапраўдным багацці можна зразумець, калі гаворка ідзе пра птушак парка. Іх тут 258 відаў — такой разнастайнасці няма больш нідзе ў Еўропе! Асабліва тут апякуюць "начную кошку" — філіна. Тураўшчына — адзінае месца на гэтым кантыненце, дзе гняздуецца марадунка. Ну, а пра сімвал Беларусі — бусла і казаць няма чаго: яго гняздо ёсць нават на даху Тураўскага гарсавета. Не дзіва, што запаведнікам цікавяцца шматлікія госці з далёкага замежжа — і часта сюды завітваюць. А нядаўна па ініцыятыве Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Аддзялення Пасольства Швецыі ў Мінску ў Прыпяцкім парку ладзіўся дзіцячы навуковы семінар: юныя вучоныя з Беларусі і Швецыі вывучалі нашую прыроду. У дзіцячым лагеры пабывалі некалькі дзесяткаў шведскіх юнакоў і дзяўчат. Праводзілася мерапрыемства пры падтрымцы ГА "Ахова птушак Беларусі".

Сом, шчупак — гэткія каштоўныя рыбіны не рэдкасць у мясцовых водах. Больш таго, бывалыя рыбакі кажуць, што ў Прыпяці тут ловіцца нават таўсталобік — вядомы і ў нас, і на захадзе дэлікатэс.

— Аднойчы прыязджаў да нас у госці пажылы немец. Мясцовыя якраз вярталіся з рыбалкі і прынеслі нам некалькі ракаў. Як толькі немец іх убачыў, адразу пусціў слязу. Кажа, узгадаў дзяцінства: аказваецца, апошняга рака ў ягонай Эльбе злавілі, калі яму было 15.

Таму Тураў — не толькі гістарычная мясціна, гэта яшчэ і агромністы — пакуль, на жаль, збольшага патэнцыяльны — цэнтр экалагічнага турызму. Чаму патэнцыяльны? Не, справа не столькі ў нераспрацаванасці маршрутаў, ды нават не ў адсутнасці інфраструктуры.

Толькі Прыпяцкі парк распрацаваў за апошняе дзесяцігоддзе чатыры пешыя, два аўтамабільныя і нават водны турыстычны маршрут — а праходзяць па іх толькі некалькі турыстаў у дзень. У ліку "першаадкрывальнікаў" тураўскай прыроды — і ваш карэспандэнт; якраз падыходзім да цардуба — 800-гадовага дрэва-волата, які перажыў шматлікія вырубкі і асушэнні.



— Была тут некалі школьная экскурсія, — распавядае мой гід. — Адна настаўніца і кажа: "Вы б зрабілі лаўкі каля таго дуба, адчынілі нейкі рэстаранчык... Сабралі пажоўклае лісце, адкрылі шлях да гэтых мясцін — а то адны заraслі, не прабрацца. Паклалі б асфальтавую сцежку...". Гэта — "стандартны" падыход да арганізацыі турызму "з нічога". Але чамусьці тыя рэдкія іншаземцы, што сюды трапляюць, дэкларуюць: "Мы такога нідзе не бачылі". У той жа Германіі любы куточак лесу літаральна прапыласошаны — там няма ніводнай пылінкі. Таму немцы едуць у такія вось запаведныя куточкі Беларусі, каб паглядзець на край некранутай прыроды, які ні за што не трэба "акультурваць".

*Тураўская глеба лічыцца на Беларусі эталоннай. Тураўскую зямлю можна лічыць такой таксама. У тым ліку і для развіцця турызму.*

*І няпраўда, што нічога для гэтага не робіцца. Нельга казаць, што наведвальнікаў сюды "пакуль нішто не прываблівае". Хутчэй, не прываблівае ніхто: мясцінам гэтым не хапае элементарнай рэкламы.*

*Цікава, калі ж, зайшоўшы ў Мінскае турыстычнае агенцтва, не замест, а разам з прапановай наведаць Турцыю і Кіпр можна будзе пабачыць аб'яву: "Старажытная Тураўшчына — цнатлівы куток Палесся. Ад'езд — кожны дзень"?*

**Мікалай АНІШЧАНКА**
**Фота аўтара**



# Трымацца духоўнасці!

**Два гады, як выдавецтва "Юнацтва", адкуль выходзіла ў свет літаратура для дзяцей і моладзі, аб'яднана з "Мастацкай літаратурай". "Дарослае" выдавецтва, прыняўшы на сябе адказнасць за лёс кніг для самай чуйнай і даверлівай часткі нашых грамадзян, любоўна ставіцца да сваіх абавязкаў. Пацвярджэнне таму — вясёлкавае ззянне дзіцячых кніг ад "Мастацкай літаратуры" на паліцах кніжных магазінаў. Ад іх вее спакоем і дабрынёй. Толькі жаданне данесці праз кнігу найлепшыя чалавечыя пачуцці здольна выклікаць такі душэўны водгук. Пра гэта і наша размова з галоўным рэдактарам выдавецтва, пісьменнікам Віктарам Праўдзіным.**

**— Віктар Аляксандравіч, выданне дзіцячых кніг для выдавецтва — дадатковая нагрузка або цікавы накірунак?**

— Выданне дзіцячай літаратуры — гэта, найперш, велізарная адказнасць. Для прыкладу раскажу невялічкі жыццёвы выпадак. Неяк купіў я для сваёй унучкі кніжку — вялікую, прыгожую. Сярод мноства ілюстрацый там намалявана заплаканая котка з мышалоўкай на хвасце. Як убачыла гэта мая Ксенія — пачала плакаць, што коціку баліць — ледзь супынілі мы тыя слёзы. Хочаш не хочаш, а мусіш думаць пасля, якое ўздзеянне здольна аказаць на дзіця кніга і рабіць усё, каб у выдавецтве выходзіла толькі добрая дзіцячая літаратура. Разуменне адказнасці вымагае і карпатлівай працы. Да ўсяго, патрабаванні дзяржстандарту да дзіцячай кнігі такія, што прадукцыя благой якасці проста не можа з'явіцца на свет...

**— Чаго патрабуе дзяржстандарт ад выдавецтва?**

— Добрай паперы, выкарыстання пэўных кегляў (памераў шрыфта) дзеля таго, каб дзеці зрок не псавалі, чытаючы. Дзіцячая кніга павінна быць багата аздоблена малюнкамі — не менш 30 працэнтаў ілюстрацый... Зразумела, што пры такіх стандартах выданне дзіцячых кніг дарагое. Але выдавецтва з задавальненнем займаецца імі. На сённяшні дзень 50 працэнтаў ад таго, што выдаецца ў нас — дзіцячая літаратура.

**— Пакуль што гаворка ішла пра маральную адказнасць, вялікія матэрыяльныя выдаткі і карпатлівую працу. А з чаго складаецца "задавальненне"?**

— Трэба прызнацца, што ўсе мы вучымся ў дзяцей і ўнукаў нашых. Ствараючы нешта для іх, зусім па-іншаму пачынаеш глядзець на свет — вачамі дзіцяці. Гэта як нагода згадаць, што ўсе мы — дзеці Зямлі, дзеці прыроды, і павінны вучыцца жыць так, каб не нашкодзіць нідзе і нікому. Гэтак і ў Біблії, зрэшты, напісана... Работа над кнігай для дзяцей вяртае дарослых людзей, сталых прафесіяналаў, у пару свайго маленства, аднаўляе ў памяці дзіцячыя пачуцці, уражанні, чысціню. І мастакі, напрыклад, беручыся за афармленне дзіцячай кнігі, імкнуцца да дабрыні. Гэта цудоўна, бо нават імкненне — ужо крок насустрач таму, каб дабрыня перадалася дзецям, якія прачытаюць кнігу і пабачаць малюнкі...

Дзеці — тая частка нашага насельніцтва, якая хоча мець харошую кнігу ў руках. Не важна, на якой мове яна напісана. Добрая беларуская кніга з удалым афармленнем чытаецца дзецьмі не менш ахвотна, чым расійская. Важная аздоба, малюнкі, зрокавае ўспрыманне. Калі бачыш, як маленькі чалавек падоўгу гартае кніжку, разглядае малюнкі ў ёй — ты разумееш, што зрабіў нешта харошае... Таму, канечне ж, выданне дзіцячай літаратуры — той накірунак, які любяць у выдавецтве і над якім па-асабліваму апякуюцца.

**— У выдавецтве імкнуцца кожную кнігу зрабіць творам мастацтва. А які далейшы лёс вашых выданняў, як яны рэалізуюцца і ці прыносяць прыбытак выдавецтву?**

— Калі нехта на кнігах зарабляе грошы, то мы, як дзяржаўнае выдавецтва, не маем права зрабіць гэта найпершай сваёй задачай. Мы павінны думаць пра тое, што будзе за душой праз дзесяць—пятнаццаць год у сённяшняга нашага чытача, які да той пары вырасце, пасталее. Я не люблю тэрміна "перавыхаванне". Трэба старацца закладваць харошае, каб потым не змагацца з благім. А трывалы падмурак гэты так і будуецца — праз добрыя ўчынкі ў сённяшнім дні. Учынкі выдавецтва — гэта добрыя кнігі, якія словам сваім пасеюць зерне сапраўднага і прагі яго ў дзіцячых душах... Акрамя таго, мы, як дзяржаўнае выдавецтва, павінны быць заканадаўцамі моды на добрую кнігу і падаваць прыклад у гэтым накірунку. Вы паглядзіце, якія часцяком выдаюцца кнігі камерцыйнымі выдавецтвамі: вокладку яшчэ "выцягнуць", а ўнутры — шэрая папера, без малюнкаў... Мы сабе такой "якасці" дазволіць не можам... Вось, калі ласка, выдадзеная намі ў мінулым годзе кніга "Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі" Пятра Васючэнкі. Гэтая кніга на 44-ым рэспубліканскім конкурсе "Мастацтва кнігі" забрала ўсе прызы. Паглядзіце, якая папера, які шрыфт, якое незвычайнае афармленне! Трэба сказаць дзякуй і мастаку — Уладзіміру Лукашыку.

Дзяржава адгукаецца на нашы праекты, дае датацыі, і таму выдавецтва мае магчымасць працаваць на перспектыву, на заўтрашні дзень...

**— Што робіцца выдавецтвам для прапаганды беларускай дзіцячай кнігі?**

— Падкрэсліваючы важнасць тэматыкі, асобна створаны аддзел прапаганды і рэкламы. У любы садок Мінска зайдзіце — там ведаюць "Мастацкую літаратуру". Мы ладзім выставы, сустрэчы з пісьменнікамі. У мінулым годзе толькі прэзентацый нашых кніг было больш ста пяцідзесяці... Калі бачыш, як дзіцятка ўхопіцца за кніжку і не хоча выпускаць яе з рук — гэта значыць, мы трапілі па прызначэнні, нечым закранулі дзіцячую душу. Гэта цешыць, дзеля гэтага і працуем.

**— Віктар Аляксандравіч, як вы ставіцеся да падзялення кніг на "сур'ёзную" літаратуру — і "літаратуру для дзяцей"...**

— Можа, "дзіцячае" і ёсць самае сур'ёзнае ў любой літаратуры. Мы толькі гаварылі пра тое, якая гэта адказнасць перад будучыняй — пісаць для дзяцей. Што чалавеку закладзена ў дзяцінстве, тое будзе пасля мець і кожная сям'я ў прыватнасці, і грамадства — у цэлым.

Гэта — па-першае. Па-другое, каб падрыхтаваць чытача для сустрэчы з "дарослай" літаратурай, трэба выхоўваць яго літаратурны густ. Пра гэта трэба памятаць і да гэтага імкнуцца.

А яшчэ я асабіста лічу, што не можа той, у каго за душой няма святога, для дзяцей пісаць. І калі нашы ветэраны вайны — Алесь Савіцкі, Пятро Прыходзька, Іван Шамякін, Васіль Гурскі звяртаюцца да жанру казкі — для мяне асабіста гэта значыць, што, прайшоўшы праз жыццё, зведаўшы ў ім цяжкасці поўнай мерай, яны не страцілі веру ў добрае, светлае і імкнуцца гэту веру перадаць тым, хто ідзе следам... Я ж веру, што, калі дзеці перастануць гуляць у вайну, вайна скончыцца ва ўсім свеце!

**— Як выдавец, спажывец і грамадзянін якой літаратуры для дзяцей вы чакаеце ад аўтараў?**

— Выдавецтва ўвесь час у пошуку. Адна справа — напісаць казачку, апавяданне і зусім іншая — зрабіць серыю на казачным, былінным матэрыяле, які нясе і нейкія канкрэтныя веды. Мы павінны па-харошаму, па-добраму нашых маленькіх жыхароў, бацькоў іх накіраваць у той бок, дзе ёсць веды ў хораша пададзенай форме, фарміраваць у дзяцей пазітыўнае стаўленне да людзей і акаляючага свету, даваць веды па астраноміі, фізіцы, прававых пытаннях... У нас распрацаваны і друкуюцца серыі пра Зямлю, птушак, расліны, рыб, насякомых... Я думаю, гэты накірунак правільны. Бо калі мы гэтага не зробім, усё роўна знойдзецца той, хто запоўніць гэтую нішу — і невядома, ці належным чынам гэта зробіць. Адарванасці ад жыцця не хочацца. Кніга павінна быць такой, каб ёй дзеці верылі — а, падрастаючы, не расчароўваліся.

**— Выдатна, што "Мастацкая літаратура" плённа працуе. А якія мары ў выдавецтва?**

— Хочацца, каб грамадства навучылася шанаваць творчы патэнцыял, якім Беларусь багата, інтэлект, якім нас Бог не абдзяліў. Мы месцімся ў цэнтры Еўропы і, можа, лёсам нам наканавана разважаць, думаць, філасофстваваць, пісаць, тварыць. Беларусы — найперш гуманітарная нацыя. А якое сёння стаўленне да творцы, да творчага працэсу? Калі няма адавочнага хуткага прыбытку — значыць, творца дарма марнуе час. А, між тым, я хачу нагадаць пра тое, што некалі прыбытку ад кніг нашага славутага земляка — Івана Пятровіча Шамякіна — амаль цалкам хапіла, каб у былым СССР пабудаваць Брацкую ГЭС. Вось, у прыватнасці, рэальныя прыбыткі з творчасці... А што можна пабудаваць з тых тыражоў, што мы выдаём? Не пераканаюць мяне, што тысяча, дзве — гэта нармальны тыраж. У нас толькі па лініі Міністэрства культуры пяць з паловай тысяч бібліятэк. Кожная кніга, выдадзеная ў "Мастацкай літаратуры" на дзяржаўныя сродкі, павінна трапіць хаця б у дзяржаўныя бібліятэкі і, канечне ж, у школьныя!

Закранаючы тэму тыражоў, нельга не гаварыць пра ўзровень нашай самасвядомасці ў тым ліку. "Сваё", "беларускае" — гэта не толькі трактары, машыны, добра пашытыя кашулі ці чаравікі. Гэта ў першую чаргу наш інтэлект, сабраны, у прыватнасці, і пад вокладкамі кніг. Навучыцца сваё шанаваць, сваім ганарыцца — вось што нам трэба. Тады не толькі духоўную, але і матэрыяльную аддачу грамадству пачне творчасць даваць.

**— Якія прынцыповыя задачы ставіць перад сабой выдавецтва?**

— Беларусы — адметная ў культуралагічным сэнсе краіна. Мы цікавыя свету такія, якія ёсць. Данесці свету сваё праз выдадзеную літаратуру — вось наша задача. Не перадрукоўкамі займацца, а сваё, самабытнае, на ногі ставіць, не цурацца яго.

Ведаеце, цікавы ліст месяц назад атрымала наша выдавецтва з Японіі. Яны просяць падказаць добрых кніжных мастакоў-афарміцеляў. Японцам, якія валодаюць ці не самымі высокімі тэхналогіямі ў выдавецкай галіне, нашыя мастакі спатрэбіліся! Чаму? Ды таму, што паўсюль у свеце "наеліся" тэхналогіямі і пачынаюць разумець, што камп'ютэрнае, нежывое для дзяцей кепска. Яно толькі жорсткасць і бездухоўнасць нарадзіць можа. Людзям любой краіны патрэбна тое, што нясе дадатны энергетычны пасыл. Без душы нічога не будзе. І як бы наш "кацёл" не пыхцеў іншым разам, ён вялікі і харошы — я маю на ўвазе нашу літаратуру і культуру. Нам ёсць што паказаць і каго паказаць, нам ёсць кім ганарыцца. Іншая справа, што мы павінны ісці да "іх" тэхналогій у выданні. І папера, і кнігадрукавальнае абсталяванне — усё гэта важна. Але, удасканальваючы тэхналагічны працэс, мы павінны заставацца сабой. Не хацелася б — асабліва ў дачыненні да беларускай дзіцячай літаратуры — каб пісьменнікі і мастакі пераймалі заходнюю ці якую іншую культуру. Яны там сытыя ўжо бяздушшам, да нас па духоўнасць звяртаюцца!.. Вось гэтай духоўнасці і варта трымацца.

**— Дзякуй, Віктар Аляксандравіч, за размову і шчырую заклапочанасць лёсам дзіцячай кнігі. Спадзяёмся, выдавецтва будзе і надалей радаваць дзяцей і бацькоў сваімі цудоўнымі кнігамі!**




***Віктар ПРАЎДЗІН: "Выданне дзіцячай літаратуры — велізарная адказнасць перад будучыняй"...***

**Гутарыла Алена МАСЛА**

**ФОТА АЎТАРА**

# Храм на фронце

Неяк пасля наведвання руін Крэўскага замка на спадарожнай машыне накіроўваўся ў Смаргонь. Прыкладна на палове шляху праязджалі адну прыгожую вёсачку, і справа, на гары, я заўважыў вялікую напаўразбураную будыніну з чырвонай цэглы. Запытаўшыся ў кіроўцы пра сутнасць гэтай пабудовы, у адказ пачуў: "А хто яго ведае. Касцёл нейкі, ці што..." Праз тыдзень я ўжо наўмысна прыехаў у Наваспаск (такую назву мела тая вёска), каб высветліць гісторыю гэтага "касцёла ці што". Завітаў у краму і запытаўся, хто можа мне дапамагчы. Людзі, якія набывалі прадукты, параілі: "Схадзі да "дзеда". Так, толькі "дзед" можа адказаць на ўсе пытанні пра царкву". Нехта правёў мяне да патрэбных дзвярэй. Ля парога стаяў сам "дзед". Мы зайшлі ў хату і разгаварыліся. Іван Кліменцьевіч Русак — так клічуць гэтага чалавека — нарадзіўся ў 1917 годзе, таму восем дзесяткаў год гісторыі храма прасачыў на ўласныя вочы.

Заснаваў храм старшыня Варшаўскага сейма пан Букаты, выдаткаваўшы на будаўніцтва ўсе свае грошы. Вакол месца будоўлі былі магутныя пушчы, у якіх вадзілася шмат птушак. Іх яйкі выкарыстоўвалі для падрыхтоўкі раствору — каб мацней было. Дарэчы, вапну замешвалі цэлых 16 год, а ўсё будаўніцтва расцягнулася на 36 гадоў. Дакладная дата ўзвядзення касцёла невядомая, але ў ім бласлаўлялі ваяроў напярэдадні Грунвальдскай бітвы 1410 года. Значыць, шэсцьсот год ужо стаіць. І не дзіва: падмурак з гіганцкага памеру цаглін сыходзіць углыб на тры метры. А шырыню мае каля пяці метраў. У сцяне храма пан загадаў зрабіць хованку, у якой замураваў ці то дзесяць тысяч, ці то трыццаць пяць тысяч дукатаў — на капітальны рамонт у будучыні. Туды ж была закладзена дошка з датай пабудовы і каштарыс выдаткаў. Але, кажа Іван Русак, гадоў трыццаць таму скарб быў кімсьці знойдзены і далейшы яго лёс невядомы.

Падчас Шведскай вайны касцёл выконваў абарончую функцыю; у далейшых войнах ён таксама служыў салдатам крэпасцю. Пасля канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе вёску далучылі да Расіі. Пачалася русіфікацыя; праваслаўная царква заваёўвала новыя землі. Вось і касцёл у Наваспаску быў перароблены ў царкву і заставаўся ёю аж да пачатку XX стагоддзя (дык вось чаму мясцовыя жыхары ў краме называлі яго то касцёлам, то царквою!) Падчас першай сусветнай вайны тэрыторыя перайшла да Польшчы. Праваслаўныя святары збеглі, а землямі пачаў кіраваць пан Трачынскі. Ён прапанаваў ператварыць пустуючую царкву ў касцёл. Невядома, зрабілі гэта ці не, але ў гэты ж час да вёскі падышла лінія фронту. Яе сляды можна бачыць і зараз: паміж Наваспаскам і Крэвам шмат нямецкіх умацаванняў, а адзін з дотаў месціўся у самім Крэўскім замку. Наваспаск некалькі разоў пераходзіў то да ворагаў, то да сваіх; а храм на гары быў "стратэгічнай вышынёй". У яго трохпавярховых сутарэннях месціўся бліндаж з перыскопам, а падземны ход у некалькі сот метраў злучаў камандны пункт з рэчкаю. Наконт "стратэгічнага" храма ёсць адна даволі цікавая гісторыя. Здарылася неяк так, што заходняя частка вёскі была ў руках немцаў, а ўсходняя, у тым ліку і касцёл — у рускіх. І варожыя войскі ніяк не маглі выбіць нашых салдат з гэтай вышыні. Тады яны пусціліся на хітрыкі. На самым краі заходняй часткі вёскі месціўся бровар. Немцы зрабілі выгляд, што здаюць пазіцыі і адыходзяць у лес. Вядома ж, першым чынам рускія войскі захапілі бровар і выпілі ўсё піва. А праз некалькі гадзін немцы пайшлі ў наступ і занялі вёску цалкам, бо захмялелыя нашы ваякі ніяк не маглі ім супрацьстаяць. Хто яго ведае — праўда гэта ці не?..

Пасля заключэння Брэсцкага мірнага пагаднення вёска засталася за палякамі. Тут Трачынскі ізноў прапанаваў перарабіць царкву ў касцёл, але сутыкнуўся з супрацівам шматлікага праваслаўнага насельніцтва. Тады ён загадаў з цэглы царквы пабудаваць школу ў вёсцы Антонава, што непадалёк ад Гальшанаў. Праваслаўны люд адмовіўся руйнаваць святыню, і тады пан Трачынскі запрасіў для гэтай справы каталікоў з Жодзішак, якія і сабе цаглін накалупалі для Троіцкага касцёла. Яшчэ частка трывалага будаўнічага матэрыялу пайшла на пабудову Крэўскай бальніцы. Праваслаўныя жыхары Наваспаска, гледзячы на такі



вандалізм, вырашылі пабудаваць у вёсцы драўляную царкву (яе зруйнавалі ў шасцідзесятых). У дзевяностыя гады адна заможная жанчына намерылася аднавіць царкву. Спачатку хацела адрэстаўраваць руіны, але з-за нежадання мясцовых жыхароў дапамагчы і адсутнасці дазволу ўлад яна пачала ўзводзіць царкву побач з рэшткамі касцёла. Пачала з таго, што высекла прыгожыя дрэвы, чым і настроіла супраць сябе мясцовых жыхароў. Зараз старадаўні касцёл абнесены плотам, а будаўніцтва царквы прыпынена — толькі сутарэнне гатовае. Але ж яно абсталяванае і замыкаецца на ключ — мабыць, набажэнствы ўсё ж тут праходзяць.

Касцёл, як і шэсць соцень год таму, уражвае сваёй веліччу, нягледзячы на шматлікія разбурэнні. Калісьці тут быў арган, званы, бурштынавая мазаіка. "Дзед" кажа, што касцёл у Барунах (гэта паміж Гальшанамі і Крэвам) — дакладная копія наваспаскага, таму можна прыкладна ўявіць сабе яго колішні выгляд. А зараз мажліва бачыць толькі сцены з цаглінамі, якія асыпаюць папсаваную кулямі тынкоўку, рэшткі аконных рам. Ад дзвярэй застаўся кавалак слупа з нейкай жалязякай. Усё парасло хмызняком, цэгла ад вільгаці пакрылася зялёным налётам. Мой суразмоўца ўратаваў, што мог, ад афармлення касцёла і перадаў у Каўнаскі музей. Раптам у цэменце заўважаеш замураваныя побач з цаглінамі прыгожыя блакітныя каменьчыкі, якія пераліваюцца перламутравым ззяннем, быццам рэшткі захаванага скарба. Што яшчэ здзіўляе — поўная адсутнасць надпісаў накшталт "Тут быў Вася". І вецер сярод сцен не дзьме, і гэтак тут ціха і ўтульна, што не хочацца сыходзіць.

Напрыканцы сустрэчы Іван Кліменцьевіч распавёў мне крыху пра назву вёскі. Калі касцёл будавалі, самой вёскі яшчэ не было. Пасля Букатага гаспадаром быў пан Карп, які за папаўненне рэкруцкага набору даваў дзесяціну зямлі, што належала святару. Адсюль пайшла першая назва — Ферма Папоўская. Пасля называлася паселішча Войцахава, а ўжо пры савецкай уладзе — Наваспаск. Але чаму дакладна так назвалі вёску, Іван Русак не памятае.

Пакідаючы гэтае маляўнічае месца, хочацца толькі маўчаць ад убачанага, адчутага, падслуханага ў цішыні. Гэтае пачуццё ўзмацняецца тым, што касцёл у Наваспаску не ўнесены ў Нацыянальны спіс матэрыяльных і гістарычных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і спадзявацца на хоць якую-небудзь абарону ад непажаданых наведвальнікаў не даводзіцца. Добра хоць, што тут амаль не бывае турыстаў, якія імкнуцца адламаць "каменьчык на памяць" і што адзіныя разбуральнікі тут — вятры і дажджы.

**Аляксандр ЛЫЧАЎКА**

*Фота аўтара*

## Алесь АСТАШОНАК



**Не стала яшчэ аднаго беларуса. Алеся Асташонка. Зрэшты, фізічна яго няма ТУТ ужо восем гадоў. Гэтак доўга быць ТАМ і заставацца жывым было проста немагчыма. І вось цяпер яго не стала паўсюль, апроч як у нашай памяці, кнігах ды аўтарскіх рукапісах. Цяжка даць веры, але гэта так. Алесь Асташонак памёр канчаткова. Неўзабаве пасля свайго нідзе не пазначанага юбілею. Адмысловы майстар верлібра, нябожчык Уладзімір Бурыч пісаў: *"Жыццё — гэта вольны ад смерці час"*. Што-што, а волю Алесь любіў, як любіць неруш абкладзены сцяжкамі воўк. Але нават там, у зняволенні, дзе зазвычай жывуць змушана, ён жыў з уласнай волі. Такі быў *чалавек. Без нумара*. Не дзіўна, што на гэтым свеце ў яго не было свайго пэўнага месца. А чужое ён займаць не хацеў. Ён быў адданы літаратуры і ўсё яго жыццё было адзіным творчым актам. Апроч беларускай мовы, валодаў французскай і англійскай, не толькі ствараў сваё, але і перастварАў творы сугучных яму замежных аўтараў. Пісаў п'есы, якія ставіліся на тэатральных сцэнах. Працаваў у рэдакцыях. Займеў уласнае жыллё, нарадзіў цудоўную дачку... ды ў рэшце рэшт, спакусіўшыся часовым, раптам застаўся адзінокім, чужым і бяздомным...**

**У яго першым і апошнім прыжыццёвым зборніку "Фарбы душы" ёсць два хрэстаматыйныя аповеды "Patria eterna" (Радзіма вечная — лац.) і "Вяртанне". Не разумею, чаму ні адзін, ні другі не вывучаюцца цяперашнімі старшакласнікамі на ўроках беларускай літаратуры. Гэта вельмі патрыятычныя і глыбокія творы, якія далі б фору шмат якому ідэалагічнаму пустаслоўю.**

**На жаль, апошнім часам ён ужо не мог так ярка пісаць — *выгаралі* ўсе фарбы яго шырокай душы. А нявыдадзеная "П'яная кніга" Алеся так і засталася *рассыпанай* сярод нас. І калі аднойчы ўсё ж наможамся сабраць яе і нарэшце яна пабачыць свет — кожны з нас адчуе ЯГО *творчую страту*.**

***"У гэтай заўчаснай смерці — недарэчная трагедыя жыцця. Але як ні цяжка вымавіць гэтыя словы, ёсць у ёй і жыццясцвярджальны пачатак"*, — пісаў ён у "Вяртанні", так і не вярнуўшыся сам.**

**Што ж, высокага паднебнага шляху тваёй грэшнай душы, Алесь! Узнёсшыся хай ляціць: і пуха ёй, і пяра... Гасподзь літасцівы...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# ЛеГалізацыя



**Максім БАГДАНОВІЧ:**

*"Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія. (...) Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта знача глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта свае."*





**Фелікс МЫСЛІЦКІ.** *"Апокалипсическая звезда"* (вершы і паэмы; Мінск, "Тэхнапрынт", 2004г., рэдактар Ю.Вастокаў, 150 экз., 340 стар.)

Мне ўжо даводзілася пісаць пра папярэднюю кніжку Ф.Мысліцкага, якая пабачыла свет мінулым годам у тым жа выдавецтве. Як аказалася, і папярэдняя — "Библейская полынь" — і цяперашняя — "Апокалипсическая звезда" — кніжкі аднаго эзатэрычна-рэфлексійнага зместу, якія мацуецца, як тое ні дзіўна, на глыбокай традыцыйна-заземленай усходне-хрысціянскай ідэі. За рэдкім выключэннем зроблены толькі асобныя фармальныя перастаноўкі твораў у тым самым змесце. А яшчэ пададзены новыя здымкі Ф.Мысліцкага ў коле вядомых рускіх і беларускіх паэтаў ды падноўлены *рэкламныя філіпікі* аўтару ад вядомых і не вельмі майстроў сучаснай літаратуры. І гэта мяне трохі бянтэжыць, бо якраз таленту такога паэта, як Ф.Мысліцкі, ніякія багемныя падпоркі і падтрымкі не патрэбныя, а ў такой колькасці і безразборлівасці нават шкодзяць. Што ж тычыцца ўпомненага вышэй зместу і яго тыражавання з адной кніжкі ў другую, то, мне здаецца, тут аўтар намерыўся пераняць выдавецкі вопыт вядомага нашага рускамоўнага паэта Ігара Шкляроўскага, з якім у яго ўсталяваліся пэўныя сувязі. І яшчэ адна заўвага: для сучаснай паэзіі кніжка за трыста старонак выглядае не зусім дарэчна.

Паэзія павінна быць лёгкакрылай і ненавязлівай... Разумеючы гэта, Ф.Мысліцкі сам запісвае ў цыкле "Крохотки" (міжволі эксплуатуючы выраз А.Салжаніцына): *"слова устали тесниться в твоей книге //выпусти их"...*

Бо ці не ад *таго* вершаванага *лішку* часам "зияют" яго радкі бяскроўнай адушаўлёнасцю (бесцялеснасцю), а падтэксты — наадварот — люструюць аўтарскае *замілаванне* высокай нотай уласнага голасу?..

*Здесь у окна отвисло веко,*
*И вдруг скрипит от сквозняка,*
*Здесь мысль, покинув человека,*
*петь учится у кулика.*

У М.Танка — *кулікі плачуць*. Можна даць веры. А вось што яны спяваюць, сумнеўна. Тым больш так, каб майстэрству ў іх вучыўся чалавечы розум... Усё гэта — выдаткі творчасці, над якімі ўзвышаюцца два першыя нерукатворныя радкі. Зазначым, што менавіта такую паэзію ў пераважнай большасці вершаў і спрабуе выязваць усёй сваёй існасцю Ф.Мысліцкі, фіксуючы свой асабісты даслоўна-ўзнёслы стан.

Цяпер — пра галоўнае і амаль супрацьлеглае ўжо сказанаму. Ф.Мысліцкі — паэт. Прытым паэт з ласкі Божай. Яго вершаваныя цыклы — гэта ўпарадкаваная плынь свядомасці, скіраваная творчай аўтарскай воляй у рэчышча зямной рэчаіснасці...

*Не сущность земли — мой учитель,*
*А ты — созерцатель Творца,*
*Иди ко мне с небом в обитель,*
*Живите со мной без конца.*

Ці не праўда, у гэтых радках адчувальны "потусторонний" матыў В.Блажэннага? Безумоўна, што паэзію Ф.Мысліцкага не трэба разумець цвярозым халодна-аналітычным розумам, яе пажадана дадумваць чытачоў (даствараць у сааўтарстве з паэтам)...

Варта адзначыць таксама цікавыя, як па форме, так і па стылі, неардынарныя разважанні Ф.Мысліцкага аб сваім паэтычным прызванні і мастацкай творчасці ўвогуле. Скажам, такое: *"Поэт поет, глядя на Бога. //Душа поэта вспоминает и те дни, когда она еще не была во плоти. //Поэт не подбирает метафор, образов и сравнений, он владеет речью, в которой они есть".* (Асаблівa апошні сказ.) Адным словам, перад намі бясспрэчны талент. Таму на донцы маёй патрыятычнай душы расце-кволіцца непаразуменне: чаму ж **гэта** не па-беларуску? Чаму не на роднай мове? Навошта паэту **меншыць сваё** ўласным сыходам з яго? Тым больш, што і суседняя культурная прастора не зусім адэкватна рэтранслюе яго "потусторонний" голас, апатычна адгукаецца на чужы ёй боль, не *адбівае* рэхам усе *акцэнты* аднакарэнных, але ўжо *закардонных слоў*...

*"Откликнись, Русь, на голос мой полесский"* — заклінае яе рускамоўны беларус Ф.Мысліцкі. *Нет, не дает ответа*. І тады паэт, разумеючы, што *"заплутаешь там, где нет предела"*, па сутнасці, пытаючы ў сябе, сабе ж і адказвае:

*Зачем ты российская муза,*
*Когда день не стар и не нов,*
*Приходишь в предел белоруса*
*С космической песней без слов?*

Ёсць у гэтай кніжцы Ф.Мысліцкага і такі афарыстычны выраз:*"Вершы заўсёды караткія, нават тыя, што вымкнулі са шматслоўя"...* **тваіх продкаў** — дадаў бы я. І гэтым, магчыма, зняў бы айчынную непамысьнасць паміж ім і мной — удумным чытачом і таленавітым паэтам.





**Ядвіга КУЖОЎНІК.** *"Абмыта чэрвеньскім дажджом"* (зборнік вершаў; "Тэхнапрынт", 2004г., рэдактар А.Шымановіч, 200 экз., 120 стар.)

Калі ў выпадку з кніжкай Ф.Мысліцкага "Апокалипсическая звезда" рэч вялася найперш пра **паэзію**, то ў выпадку са зборнікам Я.Кужоўнік "Абмыта чэрвеньскім дажджом" размова змушана пераключацца на *вершы*. І па літаратурным майстэрстве і па ўзроўні мыслення аўтарка кніжкі не падымаецца ў сваім натхненні вышэй планкі шарагових правінцыйных паэтаў, што гуртуюцца пры літаратурных аб'яднаннях раённых і абласных газет. І вершы зроблены як бы прафесійна, і эмоцыі ёсць, і надзённыя развагі, і патрыятызм б'е праз край... Але — гэта ўсяго толькі вершы. На жаль. Пазначана, што выданне прафінансавана з Фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы культуры і мастацтва. Гэтаму як бы й парадавацца трэба. За клопат і падтрымку. Аднак тым, хто "стаіць" пры гэтым Фондзе, трэба было б неяк кансультавацца з абазнанымі і бескампраміснымі ў літаратурнай творчасці людзьмі пры выбары кандыдата для чарговай фундацыі. Бо добра ведаю колькі напраўду таленавітых творцаў так і застаецца ў нас па-за літаратурным працэсам... Праблема не сённяшняя, даўняя, набалелая. Няўжо яна і надалей застанецца невырашальнай?..

Калі чытаеш у зборніку такія перлы:

*Дзіва (А чаму?)*
*Сабака брэша,*
*Кот мурчыць,*
*Карова мукае,*
*А чалавек маўчыць... —*

то без пэўнага кантэксту (а гэтыя радкі пададзены як асобны верш), не ведаеш, што і сказаць. І напраўду: **чаму** гэта названа вершам? Як і заключнае ў зборніку пяцірадкоўе:

*Як жа добра вар'яту!*
*Ён успрымае свет такім,*
*якім яго бачыць.*
*А разумны не ўспрымае,*
*ён у ім жыве.*

Не ўсё, праўда, у кніжцы гэтак празаічна, бо, як я зазначаў напачатку, вершы ў прынцыпе напісаны даволі прафесійна. Ёсць у іх рытмічна зарыфмаваная актуальная думка, упакаваная ў прыстойныя формы. Больш за тое, ёсць глыбока выпакутаванае разуменне самога паэтычнага прызвання:

*Каб стаць паэтам,*
*Трэба праўдай жыць,*
*Гарэць на скразняках*
*І ў кайданах тварыць.*
*Каб стаць паэтам,*
*Трэба песціць слова.*
*Яно, як элексір, —*
*Паэзіі аснова.*

Крыўдна, што пішучы такія глыбокія радкі, паэтка далёка не заўсёды адпавядае іх сутнасці ў сваёй літаратурнай працы. Здольнасць — гэта яшчэ не талент, захапленне — гэта яшчэ не прызванне... (Праўда, у беларусаў у звязку з моўнай праблемай, існуе як бы няпісанае правіла: *раз рыфмуеш па-беларуску, то ты ўжо паэт і пакутнік.*)

Недзе ў падсвядомасці паэтка вычувае эфемернасць падобнай думкі.

*Баюся, што аднойчы не паспею:*
*Зрабіць галоўнае і важнае сказаць.*
*Любіць? — люблю, ды толькі ці сумею*
*Элегію пачуццяў аб'ядnаць?..*

Не зважаючы на жорсткую крытыку, у дадзеным выпадку разам з паэткай будзем спадзявацца на лепшае.





*"На зямлі Залатавуста"* (Тураўшчына літаратурная; проза, паэзія, публіцыстыка; Мінск, "Мастацкая літаратура", 2004г., рэдактар У.Мазго, 1500 экз., 300 стар., з каляр. іл., кошт 22390).

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" з'явілася добрая завядзёнка: выдаваць калектыўныя зборнікі рэгіянальнай літаратуры. Быў выдадзены полацкі, а цяпер вось тураўскі. Праўда, калі полацкі *фаліянт*, укладзены Н.Гальпяровічам, адпавядаў рэгіянальнаму падыходу (там друкаваліся літаратары, звязаныя з гэтым гістарычным краем), то ў нашым выпадку зроблены выключэнні, у прыватнасці адносна класічнага аўтарскага раду.

Укладальнік А.Бароўскі зрабіў акцэнт чыста на эпахальнасць тураўскай мінуўшчыны, звязанай найперш з імем вялікага нашага айчыннага духоўніка Кірылы Тураўскага. Была, вядома, і яшчэ адна немалаважная прывязка: прыўрочыць выхад кніжкі да свята беларускага пісьменства, што гэтым разам якраз адзначалася ў старажытным Тураве.

Кніжка (гожа ілюстраваная) атрымалася. Выданне не павінна загубіцца на паліцах кнігарняў (хоць коштам і *кусаецца*), паколькі будзе прыцягваць да сябе адмысловымі літаратурнымі постацямі Кірылы Тураўскага ("Слова ў Вялікдзень" у арыгінале), Адама Міцкевіча (урывак з "Пана Тадэуша") і Міколы Гусоўскага (урыўкі з "Песні пра зубра" абодва ў перакладзе Я.Семяжона). Мяркую, што не застануцца па-за чытацкай увагай і публікацыі У.Караткевіча, В.Казько, У.Дубоўкі, К.Тарасава, Я.Пархуты, Ю.Лабынцава, А.Петрашкевіча, звязаныя з тураўскай зямлёй.

Наастатку знайшлося месца і для землякоўлітаратараў: В.Папка, М.Клімовіча, Г.Дашкевіч, А.Клімовіча, К.Паповай, А.Бандзюка, С.Брохіна ды У.Гаўрыловіча:

Безумоўна, што не ўсе іх творы пазначаны высокай мастацкай вартасцю, аднак у іх жыве нятленны дух патрыятызму і любові да сваёй малой радзімы.

*І чуць мне Турава званы*
*прыемна і усцешна...*
*Сумленне нашае — яны,*
*як голас Бога — вечны.*

Гэтак у вершы А.Клімовіча. Гэткі і агульны настрой кнігі. Тут можна пачэрпнуць і гістарычнага досведу ў публікацыях У.Караткевіча, Ю.Лабынцава, К.Тарасава, і сагрэцца грамадска-публіцыстычным палам тэкстаў В.Казько, Я.Пархуты, У.Глушакова, і акунуцца ў чыстую лірычную плынь паэзіі У.Дубоўкі, С.Панізніка, В.Шніпа, Ю.Фатнева, М.Чарота, М.Мятліцкага...

Эпіграф, узяты А.Марціновічам да сваёй публікацыі "Залатавуст з Турава", на мой погляд, мог бы паслужыць зачынам і да ўсёй гэтай адметнай і неабходнай нашаму нацыянальнаму адраджэнню кніжкі:

*Нас могуць чорным брудам паліваць,*
*Культываваць бяспамяцтва, бяспраўе,*
*Але мы мусім цвёрда помніць-знаць:*
*У нас ёсць Полацк, Тураў і Заслаўе.*

І Навагрудак, і Мір, і Мсціслаў, і... уся наша старажытная Айчына — Беларусь, дадам я ўслед, не баючыся быць абвінавачаным у патрыятычнай рыторыцы.

Наступны нумар газеты "Літаратура і мастацтва" выйдзе 1 кастрычніка




Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Анатоль КАЗЛОЎ

Рэдакцыйная рада:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Наталля ДЗЯНІСАВА,
Віктар КАВАЛЁЎ,
Вольга КУРТАНІЧ,
Віктар ПАТАПЕНКА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-79-65
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53
паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы — 284-66-73
музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

Электронны адрас:
e-mail: minsk@lim.by

Адрас у Інтэрнэце —
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 2424
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.09.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1365

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12